№ 43 (252) 22 кастрычніка 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА




Максім Мірны перамагае хітрасьцю. Старонка 2.

# "Украінізацыя" Беларусі

*Лукашэнка сфармаваў урад "беларускаму Юшчанку"*




Мэр украінскай сталіцы Аляксандар Амельчанка ўручае карціну зь відам Кіева прэм'ер-міністру Генадзю Навіцкаму (зьлева) ў часе яго першага замежнага візыту.

**Зь першым афіцыйным візытам новы беларускі прэм'ер выправіўся ў Кіеў. У расейскім МЗС на гэта паглядзелі не без раздражненьня. Крэмль усталяваў для краінаў-сатэлітаў негалоснае правіла, згодна зь якім іхныя ўрадоўцы мусяць пачынаць сваю дзейнасьць з рытуальнага наведаньня Гранавітай палаты.**

Падчас візыту ў Кіеў беларускі прэм'ер несьціхана абвяшчаў, што ён прыхільнік лібэралізму ў эканоміцы. Ніякіх добрых навінаў для беларускіх цукровых заводаў — ахвяраў украінскіх абмежаваньняў на ўвоз беларускага цукру — Навіцкі не прывёз. Візыт ня даў канкрэтных вынікаў. Гэта была хутчэй дэманстрацыя. Навіцкі ня мог паехаць са сваім першым візытам у Варшаву, Бэрлін ці Вашынгтон, дык наведаў хоць Кіеў.

Першым прэм'ерам у часе другога тэрміну кіраваньня Кучмы быў нацыянал-лібэрал Юшчанка. З Навіцкага Лукашэнка хоча стварыць сабе беларускага Юшчанку — лідэра правага і дзяржаўніцкага і, разам з тым, выхадца ня з колаў рэальнае апазыцыі. Але Беларусь — не Ўкраіна. Украінскамоўны Юшчанка прыйшоў на прэм'ерства як бацька грыўні і муж жонкі — амэрыканскай украінкі. Навіцкі — будаўнік, ад якога ніхто ніколі ня чуў слова па-беларуску. За вочы супрацоўнікі апарату прэм'ера называюць яго "новым Чыгіром", намякаючы на размытасьць пазыцыі і адсутнасьць прамоўніцкага таленту.

Сапраўдная мера рашучасьці Навіцкага выявіцца ў тым, ці адважыцца ён на ўвядзеньне стабільнага талера замест здыскрэдытаванага рубля.

Кучма прызначыў Юшчанку прэм'ерам, але пратрымаў на гэтай пасадзе толькі два гады. Цяпер Юшчанка — лідэр моцнага нацыянал-дэмакратычнага блёку "Наша Ўкраіна". Стварэньне "моцнага Юшчанкі" спатрэбілася Кучму, каб шантажаваць Расею. Пры аслабленьні Кучмы да ўлады ва Ўкраіне прыйдзе выразна больш незалежніцкі Юшчанка. Гэта прымушае Маскву калі не падтрымліваць, дык прынамсі цярпець самога Кучму.

Лукашэнка, які заўсёды быў дужа заклапочаны гадаваньнем сабе прадказальнай апазыцыі, здаецца, паўтарае гульню свайго наддняпроўскага двайніка.

У такім разе Навіцкі — фігура сапраўды часовая. У задуме ён мае прыняць шэраг непапулярных эканамічных мераў і сысьці ў апазыцыю.

Цяперашняя лукашэнкаўская стратэгія, скіраваная адначасова на ўмацаваньне і асабістай улады, і дзяржаўнасьці краіны, грунтуецца на веры ў сілу бюракратычнага апарату, няздольнага да самастойнай палітычнай гульні, але вернага існай дзяржаве і варожага любым спробам абмежаваць яе самастойнасьць.

Каманду Навіцкаму Лукашэнка падабраў адпаведную, здольную да дзейнасьці, адрознай ад таптаньня на месцы, якое характарызавала ўрады Чыгіра, Лінга і Ярмошына. Гэтак, міністрам адукацыі стаў Пятро Брыгадзін.

Працяг на старонцы 3.



**ПЯТРО БРЫГАДЗІН новы міністар адукацыі, нарадзіўся ў вялікай загародзкай вёсцы Моладава, на поўначы Янаўскага раёну, у нетамтэйшай сям'і. Ён выпускнік гістфаку і аўтар шэрагу някепскіх кніг па гісторыі Беларусі. Гаворыць па-беларуску, а таксама на моладаўскай палескай гаворцы.**

# Вуглік

*Беларусі не пагражае*

**На мінулым тыдні ў Менску ладзіўся V міжнародны форум глябальнай вакцыналегіі, у якім узялі ўдзел мікрабіёлягі ды эпідэміёлягі з 10 краін. Апошнія зводкі з франтоў бактэрыялягічнай вайны ды сусьветная паніка перад навалай вугліку зрабілі сустрэчу актуальнай.**

У Беларусі існуе сыстэма прафіляктыкі вугліку. Беларускі НДІ эпідэміялегіі і мікрабіялегіі мае найбуйнейшую ў Эўропе дасьледчую лябараторыю. Аддзяленьні інстытуту існуюць ва ўсіх абласных гарадах.

У сувязі зь небясьпекай бактэрыялягічных атак плянуецца закупаць больш вакцынаў (дагэтуль Беларусь набывала 10 тысяч антывуглікавых прэпаратаў штогод).

Тым часам амэрыканскае ФБР урэшце знайшло паштовую скрыню, зь якой тэрарысты адпраўлялі заражаныя бацылай лісты, — яна нібыта знаходзіцца ў адным з паштовых аддзяленьняў штату Нью-Джэрзы. Паштальён аддзяленьня Трэнтан тамака захварэў на вуглік.

На мінулым жа тыдні сібірская язва навалілася на Капітолій, дзе засядаюць амэрыканскія кангрэсмэны. Парашковы ліст атрымаў лідэр сэнацкае бальшыні Том Дэшл. Асыстэнтка сэнатара знайшла падазроны парашок у канвэрце з цыдулкай "Вы толькі што захварэлі на вуглік. Зараз Вы памраце". У выніку абсьледаваньня, бацылы вугліку знайшлі ў 31 супрацоўніка сэнату.

Амэрыцы не шанцуе. Беларусь застаецца ўбаку ад хваляваньняў сьвету.

А.Прос.

**ВУГЛІК, або СІБІРСКАЯ ЯЗВА, — інфэкцыйная хвароба, споры якой не бяруць ні мароз, ні сухмень. Яна можа быць скурнай, лёгачнай, кішэчнай і сэптычнай, суправаджаецца атручэньнем і трасцай. Чалавек звычайна заражаецца ад жывёлы — даглядаючы яе або апрацоўваючы трупы. Можна заразіцца і праз глебу, бо споры ў ёй жывуць да 100 гадоў. Чалавек пачынае хварэць праз два-тры дні пасьля заражэньня. Апошні выпадак, калі ў Беларусі захварэў на вуглік чалавек, быў зафіксаваны ў 1982 г. у Смалявіцкім раёне. Былда не здыхала ад гэтае хваробы ад 1999 г. У краіне 500 месцаў, дзе зафіксаваныя споры вугліку: гэта былдячыя могільнікі ды выганы.**

**Вуглік можна лёгка адолець пры дапамозе сучасных антыбіётыкаў, галоўнае рана пачаць лячыць.**

## Кузькавіцкі тэрарызм

**Настаўніца Кузькавіцкай СШ (Быхаўшчына) даслала іншай настаўніцы капэрту зь "белым парашком" — содай.** Спалоханая атрымальніца пабегла памылася ў лазьню, а тады ўзьняла вэрхал. Супраць "тэрарысткі" ўзбудзілі крымінальную справу, ёй пагражае штраф альбо 6 месяцаў арышту.

Аналягічны жарт зафіксавалі ў Камянцы.




## Пошта засьцерагаецца

**Паштовая служба Беларусі запэўнівае, што ўся замежная карэспандэнцыя правяраецца эпідэміёлягамі, а паштавікі разьбіраюць пасылкі і лісты з-за мяжы ў спэцадзеньні — гумовых пальчатках і рэсьпіратарах.**

Б.Т.

*Адам Глёбус*

## Што можа быць прасьцейшым

*Сяргею Харэўскаму*

Ты любіш перцы,
Я люблю гуркі.
Ты хваліш яблыкі,
А я шаную грушы.
Галоўнае, свабодна
І нязмушана
Гарэлка льецца
Зь лёгкае рукі.

Ты п'еш за жонку,
Я п'ю за дзяцей.
Ты за каханьне
Уздымаеш чарку,
А я стары і п'ю
За гаспадарку.
Мне так прасьцей.

Новыя вершы Адама Глёбуса на старонцы 10.

# Зьвер перамагае хітрасьцю


AP

**На тэнісным турніры клясы "Мастэрз" у нямецкім Штутгарце з прызавым фондам у 2 млн. 950 тыс. даляраў беларускі тэнісіст Макс Мірны па мянушцы "Зьвер" (53-я ракетка сьвету) дайшоў да фіналу, дзе, на жаль, саступіў гаспадару турніру Томасу Гаасу (15) у трох сэтах: 6:2, 6:2, 6:2.**

Ахвярамі Максіма, які пачаў зь перамогі над бэльгійцам Рокасам, сталіся першая ракетка сьвету бразылец Густаў Куэртэн, пераможца Ўімблeдону харват Горан Іванішавіч (13-я ракетка сьвету). Матч зь ім быў вельмі драматычны, Макс літаральна зубамі выцягнуў гульню, выйграўшы на дзьвюх тай-брэках (4:6, 7:6, 7:6). У чвэрцьфінале Мірны за 67 хвілінаў разабраўся з эксь-першай ракеткай Пітам Сампрасам (6:4, 6:2). У суботнім паўфінале ён перамог Яўгена Кафельнікава (5-я ракетка сьвету): 7:6, 6:3. Гэта ня першы расеец – ахвяра Зьвера. На Кубку Крамля ён "зрабіў" Марата Сафіна. Зьверу пасьміхалася ўдача — ён выйграў дзякуючы пары рыкашэтаў. Беларус перамагае хітрасьцю. Пакрыўджаны Сафін з крыўды абазваў Максіма "вескаўнёй" (прычым па-беларуску — ведае ж аднекуль!). Маўляў, калі забіваеш мяч, трапляючы па ім вобадам ракеткі (дарэчы, так Мірны забіваў і Сампрасу), мусіш прасіць прабачэньня ў суперніка.

Але Макс стаміўся. Гуляць штодня па дзьве гульні (сюды даваліся сустрэчы ў парным разрадзе) цяжкавата. Тым больш, што Томі Гаас таксама зрабіў сэнсацыю, выбіўшы не абы каго, а Хішама Аразі, Ціма Генмана і Лейтана Г'юіта.

Бліскучая гульня Макса радуе. Колькі тыдняў таму беларусы з трэскам правалілі Кубак Дэвіса, прайграўшы аргентынцам. Уладзі-мер Валчкоў ня можа выкараскацца з восьмай дзясяткі ў сусьветным рэйтынгу, Вольга Барабаншчыкава і Натальля Зьверава ўвогуле сышлі з тэнісу, а астатнія ніяк не патрапяць у першую сотню...

Калі Мірны добра згуляе яшчэ на некалькіх прэстыжных турнірах, яго будуць "сеяць" у асноўную сетку. І тады выйграваць чэмпіянаты яму будзе лягчэй.

У пачатку тыдня Максім атрымаў званьне заслужанага майстра спорту — вельмі дарэчы.

**Людовіч**

## Навіны за тыдзень

### Хлебная мафія

**Гомельская ўправа Камітэту па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй арыштавала намесьніка генэральнага дырэктара вытворчага аб'яднаньня "Гомельхлебпрам" Паўла Кундаса** і начальніка аддзелу забесьпячэньня Алега Елісеева. Іх вінавацяць у хабарніцтве і раскраданьні дзяржаўных сродкаў. Зь іхнае згоды "Гомельхлебпрам" нібыта купляў у камэрцыйных структураў па завышанай цане муку, зь якой выпякалі дарагі хлеб. Таму хлеб на Гомельшчыне быў на 26 рублёў даражэйшы, чым, напрыклад, на Гарадзеншчыне.

Зрэшты, цяпер хлеб падаражэў ва ўсёй Беларусі. Урад падвысіў на 20% закупачныя цэны на збожжа, таму цэны на хлеб з мукі новага ўраджаю павялічыліся на 15% ва ўсіх рэгіёнах краіны.

### Мікашэвічы — горад

**У хуткім часе мястэчка Мікашэвічы, што на Лунінеччыне, атрымае статус гораду.** Лунінецкі райвыканкам падтрымаў гэтую ідэю местачкоўцаў. Зараз справа за Берасьцем, якое таксама, відаць, пярэчыць ня будзе.

### Бізнэсоўцаў ужо шануюць

**19 кастрычніка Лукашэнка сустрэўся зь беларускімі бізнэсоўцамі і паведаміў,** што ў наступным годзе дзяржава будзе ім спрыяць: зьменшыць падатковы цяжар, створыць выгадныя ўмовы для ўкладаньня грошай у справу. Колькасьць ліцэнзаваных відаў дзейнасьці зьменшыцца да 10—12 відаў (цяпер іх 150). Лукашэнка ня выключыў амністыі капіталаў, якія цяпер ляжаць у замежных банках, а колькасьць праверак на прадпрыемствах паабяцаў абмежаваць дзьвюма на год.

Кіраўнік дзяржавы заклікаў бізнэсоўцаў укладаць грошы ў прыватызацыю беларускіх прадпрыемстваў, каб тыя не апынуліся цалкам у руках "людзей з-за бугра".

### Лекі ад СНІДу

**У 2002 г. у Беларусі пачнецца сэрыйны выпуск прэпарату для ВІЧ-інфіцыраваных — "Заміцыт".** Ён прайшоў клінічныя выпрабаваньні й накіраваны на рэгістрацыю ў Міністэрства аховы здароўя. "Заміцыт" падвышае абарончыя здольнасьці чалавечага арганізму.

**Б.Т.**

## Навіны гаспадарскія

### Бульба не ўрадзіла

**Усяго каля 100 цэнтнэраў бульбы з гектару атрымаюць сёлета на калгасных палетках** — гэта найгоршы паказьнік ураджаю за апошнія 10 гадоў. Пра продаж бульбы за мяжу ня можа нават быць гаворкі. Добра, калі яе хопіць для гандлю і пунктаў грамадзкага харчаваньня ў Беларусі. Бульба не ўрадзіла і ў нашых суседзяў: у Літве цэны на бульбу найвышэйшыя за ўсё апошняе дзесяцігодзьдзе.

**Урад Беларусі вырашыў падвысіць цэны на цукар на 10%.** Гэта тлумачыцца абмежаваньнем, якое Ўкраіна ўвяла на ўвоз беларускага цукру. Прэм'еру Навіцкаму не ўдалося дабіцца адмены ўкраінскіх санкцыяў падчас свайго візыту ў Кіеў у мінулую сераду.

**Кіраўнік Нацбанку Пракаповіч мяркуе, што ў наступным годзе інфляцыя беларускага рубля да амэрыканскага даляра складзе 1,2—1,4%.** Стрымаць яе ў такіх межах няпроста, бо сёлета беларусы набылі валюты на 302,5 мільёна даляраў больш, чым прадалі. Банкі зьбіраюцца зноў вярнуць гэтыя грошы ў абарачэньне, прапануючы насельніцтву золата і каштоўныя камяні. "Залаты запас" Беларусі цяпер складае 10,1 тоны.

**Яраслаўскі маторны завод ня будзе падвышаць цэны на рухавікі для МАЗу адразу на 12—30%.** Калі б гэта адбылося, менскія машыны сталіся б занадта дарагімі і МАЗ на нейкі час спыніўся б, а разам зь ім і Яраслаўскі маторны, прадукцыя якога найперш разьлічана на беларусаў. Таму цэны на рухавікі ўзрастуць толькі на 1,5-3%.

**Пастаўкі беларускіх калійных угнаеньняў у Эўропу скароцяцца,** бо расейская кампанія "Ўралкаль" дамагаецца банкруцтва АТ "Сыльвініта", праз якое салігорскі "Беларуськаль" прадаваў сваю прадукцыю за мяжу. Як вынік, беларусы страцілі частку экспарту, у тым ліку і ў Польшчу. Цяпер чакаюць, што "Ўралкаль" запрапануе сябе беларускаму ўраду ў якасьці акцыянэра салігорскага камбінату.

**Беларуская фондавая біржа спыніла куплю й продаж валютаў з "зоны эўра".** Цяпер тут працуюць з грашовымі адзінкамі Аўстраліі, Вялікай Брытаніі, Даніі, ЗША, Ісьляндыі, Казахстану, Канады, Латвіі, Літвы, Малдовы, Нарвэгіі, Польшчы, Расеі, Узбэкістану, Украіны, Швайцарыі, Швэцыі, Эстоніі, Японіі ды безнаяўным эўра. Наяўны зьявіцца на пачатку студзеня. Ніякіх праблемаў з абменам валюты Аўстрыі, Бэльгіі, Галяндыі, Гішпаніі, Грэцыі, Ірляндыі, Італіі, Нямеччыны, Партугаліі, Фінляндыі і Францыі ня будзе. Адно што за гэтую апэрацыю беларускія банкі будуць спаганяць камісійны адсотак.

**З пачатку году запазычанасьць беларускіх прадпрыемстваў за электрычнасьць падвысілася на 41%.** Міністэрства энэргетыкі зьбіраецца дзейнічаць жорстка — спачатку зьменшыць неплацельшчыкам пастаўкі электраэнэргіі на 3 дні, а калі грошай ня зьявіцца й пасьля, будзе адлучаць.

**Уплывовыя бізнэсоўцы і дэпутаты палаты прадстаўнікоў маюць дамагацца скасаваньня дэклярацыі** паходжаньня буйных капіталаў, што знаходзяцца ў заходніх банках. Такая "амністыя" можа прыцягнуць вялікія інвэстыцыі ў беларускую эканоміку. Згодна з вынікамі апытаньня Міжнароднай фінансавай карпарацыі, 45% прадпрымальнікаў выказалі меркаваньне, што апошняя перарэгістрацыя суб'ектаў гаспадараньня прымусіла беларускі бізнэс "сысьці ў цень".

**Сяржук Іваноўскі**

## З усёй краіны

### Жулікі з апалонікам

**Адзін дуброўскі пэсіянэр захацеў зарабіць у тутэйшым калгасе трошачкі грошай і збожжа.** Таму і падмеўся ён памагаць калгасу сеяць. І вось што зьдзівіла чалавека: поліўка з калгаснай сталоўкі, дзе кармілі работнікаў, пахла мясам, а мяса не было.

А падчас праверкі тае сталоўкі санэпідэмстанцыя заўважыла анучу, што тырчала з катла. Як адчынілі яны той кацёл, знайшлі ў анучы ўкручанае мяса. Спрытныя кухаркі, паварыўшы тую ляльку, мяса спажывалі самі, а дух аддавалі работнікам.

**Мікола Бусел, Дуброва**

### Канец сьвету

**У Глуску, з прычыны запазычанасьці за электраэнэргію, адлучанае сьвятло ў кінатэатры "Арыён" і дзіцячай бібліятэцы, якая з гэтае нагоды працуе толькі да 18-й.** Вінен раённы аддзел культуры і вузлу сувязі — ужо колькі месяцаў у бібліятэках не працуюць тэлефоны.

**Ігар Кірын, Глуск**

### Заапарк гандлюе дзікамі

**Гарадзенскі заапарк прадаў у прыватныя рукі пяць "лішніх" дзікіх парсючкоў.** У хатніх умовах іх утрымліваць нескладана: у ежы яны неперабoрлівыя і за дзесяць месяцаў набіраюць да 100 кг вагі. Далей іх трымаць небясьпечна — робяцца агрэсіўнымі. Па словах дырэктаркі заапарку Цаліны Пагерылы, ёсьць яшчэ на продаж дзьве віетнамскія сьвінкі, але іх асабліва купляць ня хочуць: даражэйшыя (30 тыс. рублёў), дый растуць не такія вялікія.

**Паводле газэты "Пагоня"**

### Туніс пад чорнымі крыламі

**Беларускія чорныя буслы, што выправіліся ў вырай, ужо дасягнулі берагоў Нілу, дзе яны звычайна зімуюць.** Увесну птушкі вернуцца на радзіму ў старыя гнёзды, якія, дарэчы, выкарыстоўваюць па пятнаццаць гадоў запар. На сёньняшні дзень у Беларусі налічваюць усяго 250 пар чорных буслоў. Найчасьцей яны селяцца на Гомельшчыне і Берасьцейшчыне.

**Паводле Радыё Балтыйскія Хвалі**

### Зьнікае па вёсцы ў год

**У Дарагічынскім раёне за верасень зарэгістравана толькі 28 нованароджаных і аж 73 памерлыя.** Прыкладна на 400 чалавек штогод зьмяншаецца колькасьць жыхароў раёну — фактычна як адна вёска зьнікае.

### Абрабавалі ксяндза

**У ксяндза вёскі Восава Воранаўскага раёну скралі 10 тыс. даляраў і 22 тыс. нямецкіх марак, сабраных вернікамі на пабудову касьцёлу.** Грошы ляжалі дома ў маці сьвятара. Міліцыя наракае на нейкага "гастралёра" па наводцы тутэйшых. Злодзея шукаюць міліцыя і парафіяне.

### Шалеюць коткі й хамякі

**На Магілёўшчыне сёлета зафіксавана 104 выпадкі шаленства жывёлаў, у тым ліку й свойскіх.** Так, хворая котка на лесьвічнай пляцоўцы напала на суседзкага сабаку ды ягоную гаспадыню. А ў Бабруйску 9-гадовае дзіця ўкусіў шалёны хамяк, набыты 4 месяцы таму ў зоамагазыне.

### Праверкі на беднасьць

**У Беларусі плянуецца стварыць "дзяржаўную сыстэму праверкі на беднасьць" грамадзянаў, якія прэтэндуюць на сацыяльную дапамогу.** Цяпер ад іх будуць ня толькі патрабаваць даведкі пра даходы, але й вывучаць працоўны патэнцыял, стан здароўя і век чальцоў сям'і ды магчымасьці атрыманьня даходаў ад продажу маёмасьці (за выключэньнем жыцьцёва неабходнай). З другой паловы 2003 г. "праверкі на беднасьць" пачнуцца па ўсёй краіне.

**Паводле БелаПАН**

### Пры сьвятле кастрычніка

**У Мсьціславе пашкоджаны помнік Пятру Мсьціслаўцу.** Прапала слова "Мсьціславец", што важыла каля 10 кг. Літары, адлітыя з чыгуну, былі пафарбаваныя бронзавай фарбай, і выкрадальнікі маглі падумаць, што яны зробленыя з гэтага мэталу. Раённая газэта "Сьвятло Кастрычніка" зьвярнулася да зламысьнікаў з просьбай вярнуць надпіс.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

### Сёньня ў Беларусі — дзень памяці Галакосту

У сталічным Доме дружбы прачытаюць цыкл лекцыяў пра катастрофу эўрапейскага габрэйства, пройдуць сустрэчы сьведкаў. Такім чынам мяркуецца ўшанаваць памяць шасьці мільёнаў габрэяў, якія загінулі ад рук нацыстаў.



### Бяляцкі без вусоў

**Кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі нядаўна зґаліў свае раскошныя вусы.** Ходзяць чуткі, што ён зрабіў гэта, прайграўшы нейкі заклад, зьвязаны зь верасьнёўскімі выбарамі. Мо й праўда: Алесь — адзін з самых шыбутных лідэраў апазыцыі.

**С.М.**

## Ліст у рэдакцыю

### Па-за цывілізацыяй

Я катэгарычна супраць абзываньня нашага народу то быдлам, то крэоламі. Панове, дзе жаль, дзе спагада, дзе салідарнасьць з гэтым быдлам? І чым Вашыя аўтары розьняцца ад быдлячай улады, што ставіцца да нас як да быдла? Падчас пахатняга галасаваньня 9 верасьня заходзім у хату (я быў назіральнікам). Там жыве стары сын са старой маці. У аднакамарнай маленькай хаце вельмі чыста і ахайна. З мэблі два сталы, пара зэдлікаў, штатнае радзіва – талерка, пара ложкаў. Печ. Галеча. І прага галасаваць толькі за Яго, за магчымасьць існаваць па-за часам, па-за XXI стагодзьдзем, па-за сучаснай цывілізацыяй. Акрамя гэтага прывіднага існаваньня ім нічагуткі ня трэба.

...Шчэ адна паўзе з баразны – капала бульбу. Паўзе зь ягоным імем на вуснах. Дрыжыць, каб не памыліцца, крый Божа, не прагаласаваць за каго іншага. Што ёй, акрамя картапляных турбот? ...Шчэ адна выказала шчырае жаданьне: "Трэба сабраць апазыцыю ў чыстым полі і расстраляць з кулямёта".

Сёньня я атрымаў аванс, 43 тысячы рублёў, 28,6 даляра. Гэта паўтарагадзінная плата галяндзкага работніка 10 год таму. Калі скласьці мой і жончын заробак, падзяліць на сям'ю, то на кожнага прыпадае меней за даляр на дзень.

А тым часам цераз дарогу абнавілі і пафарбавалі ўсе платы, пафарбавалі шлюзы на канавах, заляпілі ямы на шашы і зрабілі на ёй разьметку, пабялілі і парамантавалі прыпынкі, пакасілі быльнёг і дзядоўнік. Па тэлевізіі ўжо гучыць вясёлая мэлёдыя, запрашае на сялянскія "дажынкі". Двух такіх сялян я спаткаў, як вёз на ровары дадому капусту з поля. Калгасныя электрыкі, зарабляюць па 30 тысяч, пасьля вылічэньня падатку застаецца каля 27-мі. Што ім тыя дажынкі?

**Мікола Бусел, Дуброва (Сьветлагоршчына)**

# Бедныя мы, бедныя

**17 кастрычніка быў адзначаны Міжнародны дзень барацьбы зь беднасьцю. Цяпер разуменьне беднасьці ня тое, што было сто гадоў таму, за панскім часам. А беднасьць у Беларусі – зусім ня тое, што беднасьць у Нямеччыне. Зь іншага боку, беларуская беднасьць — зусім ня тое, што афрыканская ці казахская, дзе людзі часам ня маюць самага неабходнага.**

У Эўропе заможнасьць пэўнага рэгіёну цяпер вызначаецца па забясьпечанасьці кампутарамі — звычайнымі і з выхадам у Інтэрнэт — і сотавымі тэлефонамі. У нас і першыя, і другія па-ранейшаму рэдкая зьява. Паводле апошніх зьвестак, на тысячу беларусаў прыпадае ўсяго 11 сотавых тэлефонаў. Што праўда, ва Ўкраіне — 5, у Расеі – 10, але ж у Літве – 91, а ў Эстоніі – 269. А ў фінаў, якія маюць сваю фірму "Матарола", — ажно 651 мабільнік на тысячу чалавек. Інтэрнэтызаваных кампутараў у Беларусі сьмешныя 1,6 штукі на тысячу. (Ва Ўкраіне 1,3 штукі, у Арменіі 0,9, у Расіі – аж 3,5, у Літве каля 9, у Польшчы – 12. Ад Ісьляндыі, якая ідзе першай, мы адстаем у 125 разоў).

Кампутар наагул маецца толькі ў 3% беларусаў. Чвэрць нашых суайчыньнікаў маюць відэамагнітафоны, трохі больш за палову — магнітафоны, 60% — пыласосы, 70% — пральні, 90% — тэлевізары, 98% — лядоўні. Усё збольшага беларускае або савецкае, яшчэ даперабудовачнае.

На новыя грунтоўныя пакупкі трэба зьбіраць месяцамі. Бо, паводле афіцыйных зьвестак, сярэднямесячны заробак "чыстымі" (без падаткаў) у Беларусі ў жніўні склаў каля 130 тыс. рублёў. Гэта каля 90 даляраў. У ахове здароўя, мастацтве, адукацыі, культуры, сацыяльным забесьпячэньні, сельскай гаспадаркі гэты паказчык яшчэ ніжэйшы. Таму, каб пазьбегнуць беднасьці, многія беларусы вымушаныя працаваць на паўтары-дзьве стаўкі. І гэтыя сярэднія 90 даляраў яны атрымліваюць не за адну стаўку, а за чорную працу з раньня да ночы.

Праўда, шмат хто падрабляе ў "шэрым сэктары", неафіцыйна, ня плацячы падаткаў і не трапляючы ў статыстыку. Экспэрты Міністэрства статыстыкі лічаць, што рэальны сярэдні заробак у Беларусі прынамсі ў паўтара разу большы за афіцыйна-статыстычны.

Мінімальны спажывецкі бюджэт на адну душу для сям'і з чатырох чалавек пры гэтым складае 85 тыс. рублёў (прыкладна 57 даляраў). Гэта значыць, што больш за трэціну беларусаў жыве ніжэй нават за беларускі парог беднасьці.

Сярэдні бюджэт беларускай сям'і цяпер такі (зьвесткі Мінстату): на харчаваньне ідзе 51%, на адзеньне, бялізну і абутак — 21%, на прадметы побыту і гаспадаркі — 8%, на побытавыя паслугі і транспарт, аплату жыльля і камунальных паслугаў — па 7%, на лекі — 3%. У Беларусі прынята лічыць, што сям'я, якая выдаткоўвае на харчаваньне больш за 30% ад сваіх даходаў, — бедная. За бедных таксама ўважаюцца тыя, хто жыве на меней як 30 даляраў у месяц (даляр на дзень). Такіх беларусаў болей за палову.

У сельскай мясцовасьці бедных болей, чым у гарадах: ніжэй пражытковага мінімуму тут жывуць адпаведна 60% і 40% насельніцтва. Што да геаграфіі, дык самая благая сытуацыя на Віцебшчыне (45% жыхарства тут бядуюць), адносна добрая — у Менску (25%).

Пры вялікай беднасьці ў нас малое беспрацоўе. На 1 верасьня ў Беларусі было афіцыйна зарэгістравана 103,3 тыс. беспрацоўных. Такім чынам, узровень беспрацоўя ў нас 2,3%. Ва ўсходніх абласьцях — Віцебскай і Магілёўскай — яно складае 3%, найменшае яно ў сталіцы — 1,5%.

Нарэшце, пра багатых беларусаў. Гэткімі можна лічыць тых, хто плаціць падаткі па самай высокай шкале ў 30%. Такіх у Беларусі — 3%.

**Мікола Бугай**

## Навіны за тыдзень

### Спыненьне рэпрэсій

**Органы МУС спынілі крымінальную справу супраць журналістаў крычаўскай газэты "Вольны горад".** У справе адсутнічае склад злачынства. Спыненая й справа па фактах нанясеньня графіці ў Гомелі, у рамках якой канфіскавалі кампутары і аргтэхніку ў арганізацыях "Гарт" і "Грамадзянскія ініцыятывы". Апошнюю запэўнілі, што забраць тэхніку можна ва ўпраўленьні КДБ.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў і ўл.інф.**

### Сядзіба БНФ не падаражэла

**Пытаньне пра падвышэньне кошту арэнды ўзьнікла, калі спатрэбілася працягваць дамову.** Памяшканьне славутае сядзібы на Варвашэні, 8 належыць Менгарвыканкаму. Адтуль і прыйшлі паперы з прапановай плаціць за арэнду ў 10 разоў болей, чым раней. Аднак, паколькі ўласьнік ня меў права моцна падвышаць арэндную плату для грамадзкай арганізацыі, юрыстка БНФ спн.Сямдзянава без асаблівых цяжкасьцяў вырашыла справу. Кошт арэнды застаўся той самы. Агульная плошча сядзібы БНФ складае 150 кв.м, а абыходзіцца яна зараз у 70—80 тыс. руб. штомесяц.

**Людміла Гулюк**

### Мурзёнак — лідэр беларусаў Канады

**38-ы зьезд Згуртаваньня беларусаў Канады ўхваліў падрыхтаваную Кастусём Акулам заяву пра непрызнаньне вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі**. На наступныя два гады старшынём ЗБК абраны беларус з Атавы Пятро Мурзёнак, старшынькай таронцкага аддзелу ЗБК — Надзея Дробіна.

**В.К., Таронта**

# Пачынаецца рэформа войска

**У Беларусі павінен зьявіцца Генэральны штаб, штаб сухаземных войскаў, аб'яднанае камандаваньне паветранымі войскамі і супрацьпаветранай абаронай, а таксама тэрытарыяльныя войскі. Стварэньне новых структураў заплянаванае ў праграме рэфармаваньня Ўзброеных сілаў на 2001—2005 г.**

Лукашэнка на паседжаньні Рады Бясьпекі ўхваліў таксама пакет дакумэнтаў, якія акрэсьліваюць асноўныя кірункі будаўніцтва Ўзброеных сілаў да 2010 г., і Канцэпцыю тэрытарыяльнай абароны. Цяпер усе вайсковыя фармаваньні будуць падпарадкоўвацца Генштабу Ўзброеных сілаў, што дазволіць у будучым мець цывільнага міністра абароны. Галоўнай умовай уступленьня ў *NATO* зьяўляецца існаваньне ў краіне грамадзянскага кантролю над Узброенымі сіламі. Гэта разумее цяперашні міністар абароны генэрал Мальцаў. Перад паседжаньнем Рады Бясьпекі ён выступіў з заявай пра неабходнасьць парлямэнцкага кантролю над войскам. Насьпела і аб'яднаньне паветраных войскаў і супрацьпаветранай абароны. Дзіўна, што ў невялікай краіне існавалі два галоўныя камандаваньні. Аб'яднаньне ў адзін від войскаў дазволіць наладзіць лепшую каардынацыю дзеяньняў.

Праўда, былы міністар абароны краіны Павал Казлоўскі выказвае меркаваньне, што справа чарговага рэфармаваньня Ўзброеных сілаў наўрад ці пойдзе далей за словы.

**М.Б.**





IREX-PROMEDIA

## Да рэдакцыі

# Курапаты не павінны стаць месцам арыштаў

У пятніцу скончыліся археалягічныя раскопкі ў Курапатах. Як засьведчыў археоляг Алег Іоў, у тым месцы, дзе плянуецца пашырэньне дарогі, сьлядоў пахаваньняў ня знойдзена. Будаўнічыя працы, што былі спыненыя на час раскопак, адновяцца, відаць, сёньня або заўтра. Актывістка грамадзкай ініцыятывы "За выратаваньне мэмарыялу Курапаты" Ірына Жыхар кажа, што іхная арганізацыя будзе намагацца дасягнуць з уладамі наступнай дамовы: будаўнікі гарантуюць стварэньне мэмарыялу ў Курапатах, і тады грамадзкасьць пагаджаецца на аднаўленьне будаўнічых работаў. Але сябры Маладога Фронту, Беларускай Партыі Свабоды і "Зубра", якія ўжо трэці тыдзень вартуюць Курапаты, сыходзіць не зьбіраюцца.

Наўрад ці гэта мудрая зацятасьць. Да пратэстаў грамадзкасьці прыслухаліся. Вахта моладзі ў Курапатах не была дарэмнаю. Дзяржаўныя інстанцыі абавязаліся паскорыць стварэньне мэмарыялу. Пляц каля дарогі праверылі. Сьвятыя косткі нявінна замучаных ніхто не патрывожыць. Каб упэўніцца ў гэтым, варта было мучыцца тры тыдні на пакроўскім холадзе. Моладзь зрабіла сьвятую справу.

Галоўнае цяпер — прасачыць, каб будаўнікі не адхіляліся ад будаўнічага пляцу. А таксама — далей рупліва ствараць мэмарыял на Курапацкай гары. Асьвячаныя крыжы не павінны быць зьнішчаныя. Іх мусова перанесьці на магілы.

Догляд нэкропалю — справа доўгага часу, дастойная руплівага беларускага характару.

Месца смутку не павінна стаць месцам боек, новых арыштаў або палітычнае рэклямы. Гэта было б кепскаю славай ня ўладам, а ўсёй краіне.

### ТАЛАКА Ў КУРАПАТАХ

**27 кастрычніка ў Курапатах ладзіцца талака. Не забудзьцеся ўзяць з сабой рыштунак.**

# Заява для друку

Апошнім часам маё імя стала прадметам спэкуляцыі ва ўнутрыпартыйным жыцьці і ў непартыйным друку (гл., напрыклад, газэту "Наша Свабода" за 12 кастрычніка г.г.). Старшыня БСДП (НГ) намагаецца маім імем прыкрыць паход супраць іншадумцаў у партыі, устанавіць у ёй сталінскія парадкі.

Я даваў згоду балятавацца ў склад ЦК толькі таму, што некаторыя апанэнты Мікалая Статкевіча спадзяваліся на "мірнае вырашэньне канфлікту", ня верылі, што Статкевіч хоча перарабіць партыю на сталінскі ўзор.

14 кастрычніка г.г. на пасяджэньні ЦК БСДП (НГ) адзін з двух яшчэ жывых ініцыятараў адраджэньня беларускай сацыял-дэмакратыі, вэтэран дэмакратычнага руху, чалавек чыстага сумленьня Міхась Чарняўскі пераканаўся, што Статкевіч ня мае аніякіх маральных тармазоў і абмежавальнікаў, і заявіў, што ён ня будзе балятавацца ў склад Цэнтральнага Камітэту партыі. На знак салідарнасьці такую ж заяву зрабіў і старшыня Праграмнай камісіі партыі Леанід Лойка. Аб сваім нежаданьні ўваходзіць у склад ЦК заявіла і былая кіраўнічка справамі Цэнтральнага Камітэту Ніна Шыдлоўская.

Я салідарызуюся з таварышамі, якія прынялі слушнае рашэньне, і не балятуюся на пасаду сябра ЦК БСДП (НГ).

Ёсьць рэчы, пра якія сорамна гаварыць уголас, называць іх сваімі імёнамі. Але настае час, калі маўчаньне становіцца маральнаю правінаю. Таму я кажу: Статкевіч доўга гуляў у дэмакрата і змагара за дэмакратыю, але ў яго не хапіла сілы волі і цярпеньня і далей выконваць гэтую ролю.

У сваёй заяве ў ЦК БСДП (НГ) я напісаў і лічу патрэбным паведаміць пра гэта шырокай грамадзкасьці, што М.Статкевіч – правакатар у дэмакратычным руху (пра гэта сьведчыць і апошняя яго з Аляксандрам Фядутам супольная акцыя), што ён і яго людзі ў БСДП (НГ) сьвядома падстаўлялі людзей з партыі і па-за партыяй пад удары АМОНу, ГБ і пракуратуры, што ён, стварыўшы сабе імідж "мужнага змагара", злоўжываў і злоўжывае даверам большасьці БСДП (НГ) для забесьпячэньня дабрабыту сваёй сям'і, дабрабыту сваіх людзей у партыі, самавольна, бескантрольна выдаткоўвае сродкі, якія ахвяруюцца на патрэбы партыі.

**Анатоль Сідарэвіч**

## Пацярпелыя за Беларусь

Суд Цэнтральнага раёну Магілёва даў папярэджаньне лідэру мясцовага моладзевага аб'яднаньня "Паходня" Сержуку Гіркіну за ўдзел у верасьнёўскай акцыі "Хочам ведаць праўду". На акцыі 30 верасьня ён не рабіў нічога супрацьпраўнага – проста трымаў фатаздымак Завадзкага. Маёр міліцыі Чумакоў патлумачыў, што затрымаў Гіркіна, бо ведае яго асабіста, а іншых удзельнікаў акцыі - не. Старшыню магілёўскай гарадзкой арганізацыі АГП Уладзімеру Гайдукову за ўдзел у той самай акцыі далі 20 "мінімалак" штрафу. Падчас пікету ён сеў на зямлю, і судзьдзя палічыў гэта за супраціўленьне супрацоўнікам міліцыі. Лідэру Маладога Фронту Паўлу Севярынцу далі 10 ночаў арышту за арганізацыю пікету ля Менскага аўтазаводу. 7 мінімальных заробкаў штрафу далі Рыгору Варвашэвічу зь Берасьця за "спробу сарваць прэзыдэнцкія выбары" на адным з участкаў гораду. Маладэчанскаму "зуброўцу" Сяргею Галавіну далі 10 "мінімалак" штрафу за расклейку налепак.

# "Украінізацыя" Беларусі

Працяг са старонкі 1.

Ягоныя калегі зь Белдзяржунівэрсытэту і Акадэміі кіраваньня, якія ён узначальваў апошнія гады, характарызуюць яго як надзвычай сумленнага і актыўнага чалавека. Доктар філялягічных навук Іван Саверчанка спадзяецца, што Брыгадзіну па сілах будзе спыніць карупцыю ў прыёмных камісіях вышэйшых навучальных установаў, а гісторык Зьміцер Дзядзенка мяркуе, што Брыгадзін паспрабуе таксама змагацца зь цяперашняй дыскрымінацыяй беларускай мовы ў сыстэме адукацыі.

Міністрам аховы здароўя стаў ураджэнец Кубані Ўладзіслаў Астапенка — прафэсійны радыёляг, які доўгі час працаваў у Магілёве. Старшынём тэлерадыёкампаніі — 29-гадовы Ягор Рыбакоў, ураджэнец Новасібірску і выпускнік беларускай філялёгіі Магілёўскага ўнівэрсытэту, самы малады з новай хвалі беларускіх "кар'ерыстаў".

Усё гэта кадры новага, постБССРаўскага прызыву.

"Украінізацыя" па-кучмаўску — згубны шлях. Нявызначанасьць замежнапалітычнага курсу, раскраданьне нацыянальнага набытку, эканамічны застой, цынічныя парушэньні дэмакратыі і паўзучая русіфікацыя — вось і ўсё, чаго можна чакаць ад такое алігархічнае мадэлі.

**Барыс Тумар**

### Ці трэба беларусам баяцца збліжэньня Расеі з Амэрыкай?

# Вяртаньне на зямлю

*Вялікія пагрозы беларускай незалежнасьці засталіся ў мінулым*

Расея і ЗША блізкія да вырашэньня асноўных супярэчнасьцяў, што падзялялі іх у апошнія гады: па стаўленьні да стварэньня Амэрыкай новай сыстэмы процiракетнай абароны і да пашырэньня *NATO* на ўсход. Расея выракаецца ранейшых прэтэнзій і прапануе Амэрыцы найцясьнейшае партнэрства. Паветраная прастора Расеі адкрытая для амэрыканскіх вайсковых самалётаў. Сібір гарантуе кампэнсацыю патрэбаў Эўропы ў паліве ў выпадку зьмяншэньня паставак з Блізкага Ўсходу. Амэрыка адказвае ўзаемнасьцю: "Скончылася ня толькі халодная вайна, скончыўся і пасьляхалоднаваенны пэрыяд", — заявіў дзяржсакратар Колін Паўэл у Шанхаі.

Збліжэньне Масквы й Вашынгтона выклікае перасьцярогі беларускіх незалежнікаў, якія ўсе 90-я гады выкарыстоўвалі геапалітычнае суперніцтва Крамля з Захадам дзеля зьберажэньня суверэнітэту Беларусі і пошуку рэсурсаў на дзейнасьць "паралельнага грамадзтва". Незалежнікі баяцца апынуцца сам-насам з маладым расейскім капіталізмам звонку і самадурствам саветызуючае вярхушкі ўсярэдзіне.

Яны недаацэньваюць той факт, што за 80—90-я беларуская нацыянальная ідэя настолькі ўмацавалася ў грамадзтве і, галоўнае, у дзяржаўным апараце, палітычных і гаспадарчых элітах, што само гэта робіць Беларусь самастойным гульцом на міжнароднай сцэне. Вялікія пагрозы беларускай незалежнасьці засталіся ў мінулым. Нават міжнародная ізаляцыя беларускае вярхушкі нічога не мяняе. Сувэрэнітэт усьпрымаецца беларускімі элітамі як нешта неад'емнае. Амаль неймаверна, каб яны хоць калі паставілі яго пад сумнеў. Маразматык або нават "агент" у


REUTERS
Пуцін і Буш у Шанхаі

менскім кіраўніцтве нічога не змаглі б з гэтым парабіць. Летуценьнікі-імпэрыялісты ў Маскве хай разьвітаюцца з ілюзіямі.

Гэта зьмяняе і ўмовы палітычнае гульні ў Беларусі. Абарона нацыянальнае незалежнасьці перастае быць палітычным козырам сама па сабе. Замест абароны незалежнасьці беларускія выбарцы чакаюць абароны нацыянальных інтарэсаў.

Збліжэньне Вашынгтону і Масквы адбываецца на цалкам новых асновах. Масква адмаўляецца ад глябальных прэтэнзіяў. Маскоўская прэса спрабуе прадставіць справу так, нібыта яна робіць гэта ўзамен на права на рэгіянальнае лідэрства ў СНД.

Так гэта ці не, будучыня Беларусі можа быць толькі такой самай, як і будучыня дзясятка нашых сярэднеэўрапейскіх суседзяў. Часовыя адрозьненьні гістарычна неістотныя і ўрэшце будуць перадоленыя. Геапалітычная сытуацыя Беларусі выключае іншыя варыянты. ЗША ня могуць ставіцца да Беларусі прынцыпова іначай, чым да суседак. Ня зьменіцца й пазыцыя Эўропы. Адзін рэгіён — адно стаўленьне. Маскве прыйдзецца з гэтым прымірыцца. Сьвядомасьць беларусаў не была гатовая да пераходу з-пад апекі Масквы ў заходні сьвет на пачатку 90-х. Цяпер шмат што памянялася. Усе 90-я галоўнай сувэрэнізуючай і празаходняй сілай у краіне была апазыцыя. Сувэрэнітэт адстаялі. Цяпер такой сілай стане дзяржаўны бюракратычны апарат. А ён — надзейная сыстэма.

Небясьпечны вуглік сібірскае пыхі яшчэ разьядае час-часам цяперашнюю Расею. Аднак рэальныя магчымасьці нашае "саюзьніцы паняволі" сьціплыя. Расея — геаграфічны, інфармацыйны і атамны волат. Ва ўсім астатнім яна мае невялікі патэнцыял. Маральны крызыс ёй не ўдалося спыніць. Яе рынкавая эканоміка моцна крыміналізаваная. Мэтастазы расейскага крызысу ўсе 80-я і 90-я падточвалі й Беларусь.

Пара разьвітацца зь пячорным уяўленьнем: чым горш маскалю, тым нам лепш. Беларусь і Расея — не спалучаныя сасуды, каб з аднаго ў адзін нешта перацякала. Менавіта таму, што Беларусь і Расея за XX ст. ператварыліся ў два асобныя нацыянальныя арганізмы, прагрэс Расеі азначае таксама прагрэс Беларусі.

Чым болей дэмакратыі ў Расеі, тым болей яе будзе ў нас. Чым мацней вэстэрнізуецца Расея, тым лягчэй рэалізуецца заходняе пакліканьне нашага краю-зубра. Чым больш плёну дадуць пуцінскія рэформы, тым больш умацуецца беларуская гаспадарка, а разам зь ёй і пачуцьцё здаровага беларускага эканамічнага нацыяналізму. Альянсу Расеі з Амэрыкай ня трэба баяцца.

Усё вяртаецца зь нябёсаў на зямлю: і Масква на чале з рэалістам-Пуціным прызнае, што можа захавацца як дзяржава толькі пад крылом Амэрыкі. І Беларусь — насуперак усім ілжэпрарокам — ня можа не застацца незалежнай. Непазьбежнае спаўняецца.

**Андрэй Дынько**


AP

## Квасьнеўскі ў Маскве

**Пасьля 20-гадовага перапынку ў Расеі прайшлі Дні польскай навукі.** Прэзыдэнт Польшчы Квасьнеўскі, скарыстаўшы нагоду, таксама наведаў Расею. Налета ж Пуцін адведае Варшаву. Маскоўская *Известия* цяпер нават гаворыць пра будучую вось "Масква—Варшава". Расея хацела б дабіцца ад Польшчы маўклівае згоды на панаваньне ва Ўкраіне і Беларусі ў абмен на дазвол на далучэньне Балтыі да *NATO*. Квасьнеўскі лічыць, што збліжэньне Расеі з Захадам у далёкай пэрспэктыве прывядзе яе саму ў *NATO*.

**Б.Т.**

**З Расеі пра Расею**

## Чаму Пуцін так цесна супрацоўнічае з Захадам

Віталь Портнікаў, Масква



Рашэньне Ўладзімера Пуціна пра закрыцьцё двух вайсковых аб'ектаў за мяжой, якія Расея атрымала ў спадчыну ад СССР, — базы ў Віетнаме і радыёлякацыйнай станцыі на Кубе — назіральнікі назвалі сэнсацыйным. Іх зьдзівіла не інфармацыя пра Віетнам — зьвесткі пра хуткую ліквідацыю зьявіліся яшчэ колькі месяцаў таму.

Сапраўднай сэнсацыяй сталася паведамленьне пра станцыю на Кубе, якая была адным з найбольшых дасягненьняў СССР у часе халоднай вайны. Нідзе больш войска аднае звышдзяржавы не набліжалася так моцна да войскаў іншай. Таму ліквідацыя базы, зьмешчанай у валоданьнях Фідэля Кастра, мае вялізнае сымбалічнае значэньне, і дзеля гэтага сымбалічнага жэсту Расея згаджаецца на такі значны пралом у сыстэме выведкі.

Масква на ўсю сілу сыгналізуе Вашынгтону: "Мы з вамі!", карыстаючыся ўсімі сыгнальнымі сьцяжкамі, якія мае. Зь Віетнаму, з Кубы, з Таджыкістану і з Узбэкістану. Штосьці надзвычай эфэктнае мае адбыцца на суботнім спатканьні Пуціна з Бушам.

Мае знаёмыя дыпляматы, якія працуюць у Галоўным штабе *NATO*, распавядалі, што ўсё гэта абуджае ў Брусэлі вялізны энтузіязм. Польскі прэзыдэнт падчас візыту ў Маскву прадказвае, што ў будучым Расея зробіцца ўдзельнікам Паўночнаатлянтычнага альянсу... Словам, ідылія эпохі тэрору!

Аднак варта паспрабаваць зразумець, навошта Пуцін гэта паабяцаў і што будзе заўтра?

Палкоўнік Пуцін не зьяўляецца ідэалістам, які кіруецца ў сваіх учынках верай у тое, што, толькі аб'ядна́ўшыся, чалавецтва пераможа тэрарызм, і таму Расея павінна быць з Амэрыкай і Захадам. Расея мае зараз шанец зрабіцца часткай заходняга сьвету, не зьмяняючы замежнай і ўнутранай палітыкі. Калі нават Пакістану прабачаюць ваенную дыктатуру й здымаюць супраць яго санкцыі, хто будзе прыгадваць Расеі ейную "кіраваную дэмакратыю", дзіўны хаўрус зь Беларусяй або Чачэнію?

А калі немінучы спад цэнаў на нафту загоніць Расею ў тупік, Захад напэўна чым можа дапаможа "таварышу Ўладзімеру". Дапаможа, бо "таварыш Уладзімер" наш і яшчэ які наш — больш наш, чым генэрал Мушараф!

Адвечная праблема кожнага заможнага мужчыны — чаму яна мяне выбрала: па каханьні ці з-за маіх грошай? Зразумела, будзе лепей, калі пуцінская Расея скіруецца на Захад, чым заставацца ў "вечным расейскім нідзе". Але трэба ўсьведамляць, што кіраўніцтва Расеі не да канца яшчэ разумее, дзе месца нашае дзяржавы, а, выбіраючы саюзьнікаў і спонсараў, кіруецца каньюнктурнымі меркаваньнямі. А калі сытуацыя зьменіцца, можа зьмяніцца і выбар, што моцна ўразіць Захад, упэўнены, што "Расея з намі па каханьні". Бо калі Расея насамрэч прыйдзе на Захад — Захад павінен зрабіць усё, каб ня даць ёй сысьці.



## Такі дарагі "Жыгуль"

Моцна падаражэлі расейскія "Жыгулі". Калі раней іх цана стабільна падвышалася штомесяц на 100 даляраў, дык цяпер яна скокнула адразу на 200—250 (мадэлі зь пярэднім прывадам) і 350 даляраў ("Ніва"). Кошты на "васьмёркі", "дзявяткі" і "дзевяноста дзявятыя" мадэлі павялічыліся адразу на 6—7 тыс. расейскіх рублёў (расейскі рубель суадносіцца з даляром прыблізна 30:1). "Пятнаццатая" падаражэла на 5700 руб., "дзясятка" — на 4500, "адзіннаццатая" і "дванаццатая" — усяго на паўтары тысячы. Інжэктарная й карбюратарная "Нівы" будуць каштаваць адпаведна на 8000 і 9940 рублёў больш: зіма хутка, трэба магутныя ўсюдыходныя машыны. А вось цэны на доўгія "Нівы"-2131 пабольшалі ўсяго на тры тысячы: відаць, мала іх купляюць.

Гаворка ўсюды ідзе пра цэны вытворцы. Раздробныя ўзрастуць адпаведна.

Зьвязаны такі рэзкі рост з маючым адбыцца ў Расеі абмежаваньнем на ўвоз патрыманых іншамарак. З-за павышэньня цэнаў доля расейскіх аўтамабіляў у продажы на беларускім рынку ізноў зьменшыцца.

**Навіны за тыдзень**

## Беразоўскага хочуць пасадзіць

**Маскоўская пракуратура выдала ордэр на арышт расейскага алігарха Барыса Беразоўскага — таго самага, які некалі працаваў выканаўчым сакратаром СНД у Менску і абараніў Беларускі гуманітарны ліцэй ад закрыцьця.** Вінавацяць яго ў злоўжываньнях падчас кіраваньня расейскім "Аэрафлётам". Арыштаваць Беразоўскага можа толькі Інтэрпол, бо ён зараз жыве на эміграцыі ў Францыі.

## Падводны крымінал

**На Ціхаакіянскім флёце Расеі чатыры п'яныя матросы тэрміновай службы, што несьлі начную вахту, захапілі падлодку і ўзялі ў закладнікі дзяжурнага афіцэра.** Усю ноч яны трымалі човен зачыненым і зьдзекаваліся з закладніка. Раніцай, працьверазеўшы, здаліся.

## Забілі судзьдзю з Рыгі

**У Рызе забілі судзьдзю акруговага суду Яніса Лаўкроза.** Ён старшыняваў на шэрагу працэсаў, зьвязаных з гандлем наркотыкамі, разглядаў справу рыскага амонаўца Сяргея Парфёнава, а сёлета ў красавіку даў ад 5 да 15 гадоў турмы тром актывістам расейскай нацыянал-бальшавіцкай партыі, што ў лістападзе 2000-га захапілі званіцу сабору Сьв.Пятра ў Старой Рызе. Спэцслужбы лічаць, што забойства судзьдзі — замоўленае.

**С.М.**

# Два капітаны-2

**Зінові Марголін зрабіў дэкарацыі да самага маштабнага м'юзыклу сэзону ў Маскве.**



У Маскве 19 кастрычніка адбылася афіцыйная прэм'ера спэктаклю "Норд-Ост" — клясычнага, так званага стацыянарнага м'юзыклу на расейскім матэрыяле. У вагонах мэтро былі расклееныя сотні ўлётак-постэраў, радыё рэгулярна паведамляла, што роўна ў 21.30 на сцэну сядзе самалёт-бамбавік, рэкляма зьявілася нават на квітках мэтро.

М'юзыкл напісаны па матывах раману Веніяміна Каверына "Два капітаны". Ісьці ён будзе пяць разоў на тыдзень, у залі 1150 месцаў, білеты каштуюць ад аднаго да трыццаці даляраў. За год пасьпяховага пракату спэктакль верне пазыкі, праз два гады можна будзе думаць пра новую пастаноўку.

Рызыку аўтары (дакладней, адзін зь іх — бізнэсовец Георгі Васільеў) і прадусар Аляксандар Цэкала бяруць на сябе. Разам з маскоўскім беспрызорнікам, будучым арданосным лётчыкам і палярным дасьледчыкам Санем Грыгор'евым на сцэне можна ўбачыць паморау пачатку 1910-х, разгубленых дамаў узору 1930-х. Гудзе, ствараючы карнавальную атмасфэру, маскоўская "таўкучка" першых гадоў НЭПу, мільгаюць лётчыкі, налётчыкі, канькабежцы, піянэркі, таварыш Чкалаў ва ўсім белым, паўночныя ненцы ў маліцах, бляднікі, беззаганны настаўнік Караблёў — увесь савецкі і расейскі народ ва ўсёй сваёй красе.

Гэты народ танчыць на Смаленскім базары, б'е чачотку на лётным полі, упартым чарльстонам адганяе Саню Грыгор'ева ад брамы савустановы, вальсуе на катку парку культуры, выкладаецца ў хвілінных ролях (асабліва файныя таварыш Чкалаў і ўтрапёны дворнік-татарын). Дэкарацыі Зіноўя Марголіна многа даюць спэктак-

**ЗІНОВІ МАРГОЛІН**



**Выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў (1982). Мастак-пастаноўшчык больш як 40 спэктакляў у тэатрах Менску, Масквы, Санкт-Пецярбургу. Сярод іх "Барыс Гадуноў" у Беларускай опэры і "Ідылія" ў Купалаўскім.**

# Прызнаньне паганства

**Група літоўскіх парлямэнтароў прапануе прызнаць паганства традыцыйнай літоўскай рэлігіяй.** Адпаведную папраўку да Закону аб рэлігійных суполках і грамадах падалі ў сакратарыят Сойму група сацыял-лібэралаў, лібэралаў і сябар Партыі нацыянальнага прагрэсу. “Вучэньне і абрады старадаўняй рэлігіі балтаў не пярэчаць закону і маралі, а падтрымку ў грамадзтве старадаўняя рэлігія балтаў мае большую, чым прызнаныя законам рэлігійныя суполкі юдзеяў, мусульманаў-сунітаў і караімаў”, — гаворыцца ў тлумачальным лісьце.

У сярэдзіне 90-х гэткія спробы рабілі і латвійскія заканатворцы, прычым у Латвіі паганства карыстаецца большай падтрымкай, чым у Літве.

Наш нацыянальны сход такіх пытаньняў не разглядае. Па ацэнках беларускіх паганцаў, колькасьць іхных адзінаверцаў не перавышае некалькіх сотняў чалавек, падзеленых на колькі груповак, сярод якіх ёсьць нават эўразійска-прарасейская. Самы ўплывовы цэнтар паганства — Наваполацак. У Менску дзейнічаюць дзьве суполкі — “Явар” ды “Крыўя”. Апошняя мае радыкальны характар. “Явар”, прыкладам, зарэгістраваны як грамадзкае аб’яднаньне, а “Крыўя” адмаўляецца аддаваць сучаснай сьвецкай дзяржаве права на ўмяшальніцтва ў рэлігійныя справы. Ідэалам для іх ёсьць тэакратычная дзяржава — зь першасьвятаром на чале.

**А.Прос.**



# Стажы ў ЗША для навукоўцаў

The International Research & Exchanges Board (IREX) is pleased to announce an open competition for the FSA Contemporary Issues Fellowship Program. The deadline for this application is November 23, 2001.

The FSA Contemporary Issues Fellowship Program, a program of the Bureau of Educational and Cultural Affairs, US Department of State, under the Freedom Support Act, and administered by IREX, provides opportunities for experienced professionals and specialists in the New Independent States (NIS) to conduct policy-oriented research in the United States for four months.

This is a fully funded fellowship, covering travel, housing, stipend, medical insurance, and a professional development allowance. Fellowships are available to citizens of all 12 NIS countries, including: Armenia, Azerbaijan, Belarus, Georgia, Kazakhstan, Kyrgyz Republic, Moldova, Russian Federation, Tajikistan, Turkmenistan, Ukraine, and Uzbekistan.

All applications must contain developed and focused research projects that are policy-driven and have practical application in the NIS. Research projects must address one of the five following categories:

- Sustainable Growth and Development of NIS Economies in Transition
- Democratization, Human Rights, and the Rule of Law
- Political, Military, Security and Public Policy Issues
- Strengthening Civil Society
- Communications Revolution, and Access to Information.

Professionals eligible for the program include (but are not limited to) the following: government officials on the national, regional, and local level; leaders of nonprofit, no-governmental organizations; library and information science specialists; public health administrators; economists; journalists; managers; environmentalists; consultats; political analysts; foreign policy experts; lawyers; Internet specialists; law enforcement specialists and other practitioners. Persons who are primarily working in an academic role should consider applying for the Regional Scholar Exchange Program, instead of the FSA Contemporary Issues Fellowship Program. Applications are available at: http://www.irex.org/rsep or contact an IREX representative.

At the time of the deadline, applicants must be at least age 24 but no older than age 55, have an academic degree of diplom or above, have at least three years of professional experience in the topic of their research, and possess a level of English language proficiency adequate to conduct independent research in the United States. Other eligibility requirements apply. Refer to the program application for more details.

Applications for the FSA Contemporary Issues Fellowship Program can be obtained and submitted by contacting IREX field offices and representatives in the NIS. Applications are also available at Educational Information Centers (EIC) and at IREX administered Internet Access and Training Program (IATP) Public Access Sites throughout the NIS and can be downloaded from www.irex.org or www.irex.ru.

---

лю. Бамбавік у парамэтрах франтавога У-2 на сцэну насамрэч сядае. Але з тэатральнага пункту гледжаньня нашмат лепшая дэкарацыя камуналкі й дабітага маскоўскага трамвая эпохі ваеннага камунізму са знакамітай рэклямай: *“Сельдь атлантическая иваси”*. (Праўда, івасі насамрэч водзіцца ў Ціхім акіяне. Ну, ды для беларуса Марголіна гэта даравальна.)

Марголін з самалётам выглядае даволі сьціпла на фоне заходніх пастановак. Там на сцэне могуць збудаваць ледзьве не палову старога Парыжу (як у м’юзыкле “Адрынутыя” паводле Гюго), каб бліжэй да фіналу спляжыць яго ў працэсе рэвалюцыйных баёў. Затое акторы “Норд-Осту” далёка выпярэджваюць сваіх заходніх калегаў трывушчасьцю: на трупу з 32 чалавек прыпадае 380 вялікіх і малых роляў. У магутнай масоўцы “Адрынутых” 400 роляў ігралі 250 актораў.

**Маскаль**

# Лукаш – самае папулярнае імя

**Францускія дасьледчыкі сьцьвярджаюць, што імя Лукаш станецца самым папулярным у Эўропе ў 2002 г.** Немцы й аўстрыйцы ўжо цяпер найчасьцей называюць сваіх сыноў Люкасамі. У Францыі імя Люк таксама хутка абгоніць папулярных там зараз Тэа ды Гуга. Тое самае робіцца ў Вугоршчыне й Швэцыі. Сярод жаночых імёнаў няма ніводнага, якое б дамінавала. Папулярнымі застаюцца хіба інтэрнацыянальныя імёны з канчаткам “а” — Сара, Рэбэка ці Соня.

**Паводле *Gazety Wyborczej***

## Аб усім патроху




REUTERS

## ЦРУ зробіцца больш жорсткім

**Пасьля 11 верасьня ЦРУ перагледзела мэтады працы й крытэры адбору супрацоўнікаў у амэрыканскія спэцслужбы.** Найбліжэйшым часам ЦРУ зноў можа даць дазвол на наём агентаў, якія мелі ў мінулым судзімасьці, а пэрспэктыўнае плянаваньне часткова аддасьць у рукі супрацоўнікаў зь нестандартным мысьленьнем, абумоўленым яскравымі шызафрэнічнымі й паранаідальнымі схільнасьцямі. У найбліжэйшыя месяцы нашмат павялічыцца колькасьць “апэратыўнікаў” (дагэтуль з 18 тыс. штатных супрацоўнікаў ЦРУ толькі 800 працавалі “ў полі”). У барацьбе з тэрарызмам амэрыканскія спэцслужбы гатовыя вярнуцца да тактыкі спэцапэрацыяў, якая выкарыстоўвалася ў часе халоднай вайны, шантажу, фізычнага ціску, забойстваў.

Гэткія рэформы маюць дапамагчы ЦРУ лепей рэагаваць на нестандартныя сытуацыі.

## Правы для нямецкіх прастытутак

**400 тыс. нямецкіх прастытутак змогуць патрабаваць ад кліентаў аплаты паслугаў у судовым парадку.** Такую пастанову прыняў Бундэстаг, нягледзячы на супраціўленьне хадэкаў. Прастытуцыя ў Нямеччыне не забароненая, але дагэтуль лічылася прафэсіяй амаральнай. Прастытуткі мусілі плаціць падаткі, але ня мелі сацыяльных гарантыяў. Цяпер умова між прастытуткай і кліентам, альбо ўтрымальнікам бардэлю, альбо сутэнэрам мусіць даваць жанчыне правы, але не змушаць яе рабіць тое, чаго яна ня хоча альбо ня можа. Уладальнікі нямецкіх бардэляў мусяць зарэгістраваць сваіх прастытутак у муніцыпалітэтах і плаціць за іх узносы ў фонды аховы здароўя, пэнсіі й беспрацоўя.

Што праўда, тычыцца гэтая пастанова толькі невялікай часткі прастытутак — тых, якія працуюць добраахвотна і па-за злачыннымі асяродкамі. Тады як большасьць прастытутак у Нямеччыне — ахвяры сутэнэраў, наркаманкі ды нелегальныя эмігранткі.

## Японцы мігруюць у Эстонію

**Эканамічны спад прымушае японскіх пэнсіянэраў перабірацца на жыхарства ў таньнейшыя для жыцьця краіны.** Яны выяўляюць цікавасьць да Эстоніі. Невялікі эстонскі горад Пайдэ наведалі японскія інвэстары, гатовыя ўкласьці ў Эстонію 200 млн. даляраў. Яны зацікаўленыя ў тым, каб іхныя пэнсіянэры маглі адносна нядорага ўладкавацца ў Эстоніі і атрымліваць якаснае лекаваньне.

## Сьмяротнае пераліваньне

**У Харватыі 23 чалавекі загінулі ў выніку пераліваньня крыві.** Частка пацыентаў памерла падчас апэрацыі, астатнія — пасьля яе, у выніку праблемаў з сэрцам. Прычынай трагедыі могуць быць сапсаваныя амэрыканскія фільтры для пераліваньня крыві. Гэткі выпадак быў ужо ў Гішпаніі, тады памерлаі дзесяць чалавек.

**Б.Т.**

## Навіны зь Вільні

# Пра “Мятэй”

*У Вільні выйшаў “беларускі нумар” літоўскага часопісу*

На ягонай вокладцы сінім па белым напісана “беларуская проза й паэзія”. Паводле свайго статусу “Мятэй” — адпаведнік беларускага часопісу “Полымя”.

У апошняе дзесяцігодзьдзе пераклады зь беларускае мовы ў Літве друкаваліся, але рэдка. За гэты час не зьявілася ніводнага новага перакладчыка зь беларускай мовы. Літоўцы глядзяць на Захад. А ні пасольства Беларусі, ні грамадзкія арганізацыі, кшталту ПЭН-цэнтру, нічога не зрабілі, каб у Літве зьяўляліся новыя пераклады зь беларускай.

Ня варта зьдзіўляцца, што апошняй беларускай кніжкай, перакладзенай на літоўскую, быў раман Валянціны Коўтун “Крыж міласэрнасьці”, амаль не заўважаны беларускім чытачом. Падзеі раману разгортваюцца ў Вільні, галоўная гераіня твору — Алаіза Пашкевіч, для літоўскага чытача таксама больш-менш знаёмая постаць, бо была замужам за Сьцяпанасам Кайрысам, адным зь лідэраў літоўскай сацыял-дэмакратыі. Раман пераклала даўняя прыяцелька раманісткі, старшынька асацыяцыі беларусістаў Літвы Альма Лапінскене. Яна ж “прабіла” на кнігу фінансаваньне.

Беларусы таксама пра цяперашнюю літоўскую літаратуру ведаюць ня больш, чым літоўцы пра беларускую, г.зн. амаль нічога. Хоць нашы краіны маюць 700 кілямэтраў супольнае мяжы і 500 гадоў супольнае гісторыі.

Наколькі прыватнае тут больш эфэктыўнае за дзяржаўнае, мы пераканаліся на практыцы савецкага часу. Будучыня — за прыватнымі акцыямі. Наладжаныя прыватна Дні беларускай літаратуры ў Літве атрымалі б шырокі водгук. “Беларускі” ж нумар літоўскага часопісу зроблены ў стылі колішніх дзяржаўных акцыяў.

Беларускую прозу й паэзію прадставілі апавяданьне Быкава “Велікодныя яйкі”, вершы Бураўкіна, Гілевіча, Нікуліна, Пісьмянкова, Законьнікава, Зуёнка, апавяданьне Алеся Жука “Душа ў чыстым полі” і вэрсэты Разанава. Наяўнасьць у гэтым сьпісе Быкава й Разанава патлумачыць няцяжка. Разанава ведаюць і як актыўнага перакладчыка літоўскай паэзіі. Да таго ж ягоныя вэрсэты выклікаюць у перакладчыка ня больш галаўнога болю, чым інструкцыя да газонакасілкі. Але наяўнасьць імёнаў, зь якімі літоўскі чытач мог пазнаёміцца ў савецкія часы, зьдзіўляе. У 70—80-я амаль усіх гэтых аўтараў актыўна перакладалі на літоўскую мову. Але й тады публіка ня надта іх заўважыла. Няўжо новая публікацыя — спроба прышчапіць літоўскаму чытачу тое, што 20 гадоў таму ўжо не выклікала прыкметнага захапленьня? Затое не перакладзены ніводзін з тых беларускіх літаратараў, што жывуць і працуюць у Вільні, — безумоўна цікавых літоўцам аўтараў.

Чым кіравалася “Полымя”, калі прапаноўвала менавіта такі сьпіс літоўскім калегам? Няўжо сапраўды карабель літаратуры ўпэўнена ўзяў курс на дно, і няма нікога, з кім рэдактар “Полымя” Сяргей Законьнікаў зьвязвае *будучыню* свайго выданьня і чый сапраўдны творчы росквіт яшчэ чакаецца? Напэўна ж, яны ёсьць, і бязь іх гэтая старонка беларуска-літоўскіх літаратурных сувязяў — выпадковая.

У прадмове да падборкі “Мятэю” сказана, што кастрычніцкі нумар нашага “Полымя” мусіць прысьвячацца літоўскай літаратуры. Праўда, ягоны выхад затрымліваецца , і з дасягненьнямі літоўскай літаратуры чытачы, відаць, раней за сьнежань не азнаёмяцца.

**Андранік Антанян**

# Кніга за гарэлачныя грошы

*Выйшаў пуцяводнік Томаса Венцлавы па Вільні*

Кніга завецца проста: “Вільня”. Яе аўтар — паэт-эмігрант, мысьляр і праваабаронца, прафэсар Ельскага ўнівэрсытэту (ЗША) Томас Венцлава, найбольш аўтарытэтны ў сьвеце літоўскі інтэлектуал.




Гэта ня зборнік вершаў і не філязофскі трактат, а проста зграбны пуцяводнік па горадзе і ягонай гісторыі. Аўтарскі суб’ектывізм месцамі прарываецца толькі лірычным словам або ў адборы пэрсанажаў і помнікаў, вартых, на думку Венцлавы, увагі.

Сам Венцлава ў Вільні не нарадзіўся, ня тут прайшло і ягонае дзяцінства. Ён прыехаў сюды пасьля вайны, а цяпер ужо тры дзесяцігодзьдзі жыве ў ЗША.

Да апошняга часу не было ў Вільні такога літоўскага выданьня. Былі танныя савецкія кніжкі, было фундамэнтальнае выданьне Ўладаса Дрэмы (у свой час апошняга дырэктара Беларускага музэю імя Луцкевіча), прысьвечанае зьніклым помнікам і краявідам Вільні, была выдадзеная па-літоўску “Вільня” Адама Кіркора, а ўласна літоўскага падручніка не было.

Венцлава ў сваёй кнізе спрабуе быць ветлівым да беларусаў. Згадвае Скарыну, Чачота, Каліноўскага, Купалу, “Нашу Ніву”. Даецца таксама статыстыка беларускіх выданьняў пачатку XX ст. Пры тым Венцлава “забываецца” згадаць Мсьціслаўца, у яго выпадае гісторыя грэка-каталіцкае царквы ў Вільні (хоць менавіта тут быў утвораны першы ўніяцкі манастыр), выпадаюць Багушэвіч, найбагацейшы Беларускі музэй і беларуская гімназія. Кампазытар Галкоўскі названы чамусьці расейцам, а скульптар Рафал Яўхімовіч — літоўцам.

Дасьведчаны чытач затое ўбачыць (хоць пра гэта спэцыяльна не гаворыцца), што віленскія дойліды Франкевіч, Жаброўскі, Лянкевіч ці Падчашынскі родам зь Беларусі.

Істотна тое, што даведнік “Вільня” — ня толькі культурны і сьветапоглядны, але й камэрцыйны праект. Наша зайздрасьць пачынаецца менавіта адсюль.

Мы зьвярнуліся да выдаўца даведніка з пытаньнем, ці магчыма выдаць яго па-беларуску. Калі ласка, адказаў той. Дзьве тысячы асобнікаў за ваш кошт. Тым часам друкуецца ўжо другі літоўскі трыццацітысячны наклад — для краіны, якая ў тры разы меншая за Беларусь. Выдаўцу ёсьць чым ганарыцца: за першы месяц продажу 30-тысячны наклад разышоўся цалкам. Выйшла ўжо польскае выданьне.

Стартавае фінансаваньне на кнігу Томаса Венцлавы далі ў літоўскім Міністэрстве культуры. Ёсьць там такі фонд, якому адлічваюць тры працэнты ад даходу ўсе літоўскія вытворцы гарэлкі. Гэтак распарадзіўся ўрад.

**Сяргей Харэўскі**

# Шкада Мясьніковіча, а Акадэміі – удвая

**У сераду Лукашэнка падпісаў дэкрэт "Аб падвышэньні ролі навукі і рэфармаваньні Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі". Разынкаю гэтага дакумэнту было тое, што зараз прэзыдэнт Беларусі будзе прызначаць і здымаць прэзыдэнта НАН, а таксама зацьвярджаць прэзыдыюм Акадэміі. Фактычна, дэкрэт касуе папярэдні статут Акадэміі, зацьверджаны ў 1998 г., згодна зь якім прэзыдэнт НАН, віцэ-прэзыдэнт і прэзыдыюм мусяць абірацца агульным сходам Акадэміі раз на пяць год.**

У мінулую пятніцу прэзыдэнтам НАН Беларусі быў прызначаны доктар эканамічных навук Міхаіл Мясьніковіч, які дагэтуль ніводнага дня не працаваў у навуцы, калі не лічыць такой працай кіраўніцтва Адміністрацыяй прэзыдэнта.

Навукоўцы сьмяюцца з такога прызначэньня, але ніякавеюць: калі ўлада гэтак лёгка можа зьмяніць кіраўніка магутнай навуковай установы, чаго ж тады чакаць на месцах, у акадэмічных інстытутах? Прыкладам, акадэмік, філёзаф Яўген Бабосаў у тэлефоннай размове пажартаваў: "Мясьніковіч — нядрэнная кандыдатура, як-ніяк доктар эканамічных навук, абараняўся ў Санкт-Пецярбургу. А тое, што ён ня член-карэспандэнт, такой бяды..."

Навукоўцы, што знаходзяцца на вяршыні службовай лесьвіцы, пазьбягаюць камэнтароў. Прыкладам, старшыня ВАК Анатоль Дастанка сказаў, што не валодае інфармацыяй. Кароткі тэлефонны перakaз сутнасьці дэкрэту не дапамог. Адмовіўся даваць камэнтар і Іван Шамякін.

Леў Тамільчык, член-карэспандэнт НАН Беларусі, камэнтуючы "Звяздзе" дэкрэт прэзыдэнта, ухваліў яго: "Гэта ўжо пасьпела стаць аксыёмай — вострая неабходнасьць рэфармаваньня Нацыянальнай акадэміі навук. У тым ліку яе ўнутранай арганізацыі, сыстэмы кіраваньня, пэрсанальнага складу... Так што дэкрэт прэзыдэнта аб павышэньні ролі навукі ўспрымаю як дакумэнт, якога чакалі. Яго ўвасабленьне ў жыцьцё павінна суправаджацца сэрыяй узважаных крокаў".

Лукашэнка мае рацыю, Акадэмію трэба рэфармаваць. Цяпер яна складаецца зь ледзьве не 40 інстытутаў. У кожным — свая хітрая сыстэма кланаў і крэўна-сваяцкія сувязі. Таму доктар фізыка-матэматычных навук Юры Хадыка ў інтэрвію "Радыё Рацыя" заявіў наступнае: "Я, можа быць, упершыню падтрымліваю рашэньне Лукашэнкі. Ён фактычна бярэ на сябе рэфармаваньне Акадэміі й адказнасьць... Але спадзявацца, што рэфармаваньне скончыцца пасьпяхова, нельга, бо Мясьніковіч, хоць і стаў нядаўна доктарам навук, з акадэмічным асяродкам знаёмы слаба і ня здолее самастойна распрацаваць схему рэфармаваньня. Але як разбуральны інструмэнт ён падыходзіць".

Былы прэзыдэнт НАН, а цяпер старшыня савету рэспублікі нацыянальнага сходу Аляксандар Вайтовіч пабачыў у дэкрэце яшчэ і міжнародны аспэкт праблемы. У інтэрвію "Звяздзе" й "Інтэрфаксу" ён сказаў, што Беларусь уваходзіць у міжнародны асацыяцыі акадэміяў навук і ва ўсім сьвеце прэзыдэнта акадэміі выбіраюць, а не прызначаюць. Прызначанага прэзыдэнта можа не прызнаць міжнародная супольнасьць, і Акадэмія трапіць у ізаляцыю. Яшчэ Вайтовіч нагадаў, што ў Беларусі пасада прэзыдэнта Акадэміі была выбарнай ад 1928 г., таму дэкрэт прэзыдэнта — умяшаньне ва ўнутраныя справы навукоўцаў. Ні ў пятніцу, ні ў суботу гэтае інтэрвію ў "Звяздзе" не зьявілася. Дый на сайт Інтэрфаксу трапіла ў моцна скарочаным выглядзе. Цалкам яно мусіла быць на сайце савету рэспублікі (www.sovrep.gov.by), што адчыніўся ў пятніцу. Ужо ў першы дзень яго наведала каля 100 чалавек. Аднак у суботу сайт зь невядомых прычынаў перастаў грузіцца.

Няўжо Лукашэнка насамрэч вырашыў адмовіцца ад груваcткай коснай сыстэмы Акадэміі навук, што забірае плойму грошай, і адпусьціць інстытуты ў свабоднае плаваньне, як гэта ёсьць ва ўсім цывілізаваным сьвеце? Дагэтуль усе спробы рэфармаваць Акадэмію рукамі ейных супрацоўнікаў былі беспасьпяховымі. І Вайтовічу, і Сушчэню, і Валатоўскаму, гадаванцам Акадэміі, цяжка было "парушыць старыну" ў родным асяродзьдзі. Спатрэбіўся вараг Мясьніковіч, не абцяжараны кланавасваяцкімі сувязямі, які можа са спакойнай душой закласьці пад Акадэмію міну рэфармаваньня.

Зь іншага боку, Акадэмія навук — не адміністрацыя Прэзыдэнта, тут усіх не пашыхтуеш, не павядзеш шчыльнымі радамі на парадавыя будоўлі будучыні. Навуковае асяродзьдзе будзе ставіцца да новапрызначанага кіраўніка як да чужака, шукаць магчымасьці дыскрэдытаваць. Шкада Мясьніковіча. Хацеў стаць паслом ці бізнэсмэнам, а пакінулі чыноўнікам. Чакай цяпер новаеператасоўкі калоды! І даказвай сваю карыснасьць, марнуючы залатыя сувязі на выбіваньне грошай для новых падначаленых.

**Эдвард Людовіч**

## Вечны Мясьніковіч


IREX-PROMEDIA

**Міхаіл Мясьніковіч нарадзіўся 6 траўня 1950 г. у вёсцы Новы Сноў на Нясьвіжчыне. Скончыў Берасьцейскі інжынэрна-будаўнічы інстытут (1972) па спэцыяльнасьці "інжынэр-тэхноляг", а ў 1989 г. Менскую вышэйшую партыйную школу.**

**У 1972 г. пачаў працаваць інжынэрам у "Менскпраекце", у тым самым годзе пайшоў у войска, дзе адслужыў блізу году. У 1973 г. быў інжынэрам водаправоднай станцыі "Дражня", начальнікам вытворча-тэхнічнага аддзелу дырэкцыі водазабесьпячэньня Менску. У 1974—1977 г. — галоўны інжынэр, а пасьля й дырэктар "Менскводаканалу". З 1977 па 1983 г. працуе ў менскіх камунальных службах. У 1983—1985 г. Мясьніковіч старшынявяў у выканкаме Савецкага раёну Менску, дзе працавалі ў свой час Віктар Чыкін, Вячаслаў Кузьняцоў, Міхаіл Падгайны. Там Мясьніковіча прыкмеціў Вячаслаў Кебіч. І пачаў спрыяць. З 1985-га Мясьніковіч — сакратар менскага гаркаму КПБ. З 1986-га — міністар жыльлёва-камунальнай гаспадаркі. З 1990-га — намесьнік Старшыні Савету Міністраў БССР, старшыня Дзяржкамітэту па эканоміцы й плянаваньні. Рабочыя, што выйшлі ў красавіку 1991 г. на плошчу Незалежнасьці, пратэстуючы супраць падвышэньня цэнаў, патрабавалі адстаўкі Мясьніковіча. Аднак ён у адстаўку не пайшоў. Наступныя тры гады займаў пасаду першага намесьніка старшыні Саўміну Беларусі, з 94-га зрабіўся намесьнікам прэм'ер-міністра.**

**У 1995—2001 г. Мясьніковіч кіраваў прэзыдэнцкай Адміністрацыяй, дзе ўсталяваў жорсткую посткамуністычную герархію.**

**Жыве ў самым прэстыжным квартале Менску — у Вайсковым завулку. Сына вывучыў у Сувораўскай вучэльні і адправіў у маскоўскую школу КДБ.**

**Ён доктар эканамічных навук. У 1994 г. абараніў кандыдацкую дысэртацыю па тэме "Умовы і фактары станаўленьня рынкавай эканомікі ў Рэспубліцы Беларусі", а ў 1998-м — доктарскую на вайскова-прамысловым комплексе Беларусі. Што праўда, абараняўся ў Санкт-Пецярбургу, таму тут пра гэта мала хто ведаў.**

## Акадэмія навук і дыктат: 13.10.1928—17.10.2001


IREX-PROMEDIA

30 студзеня 1922 г. у Менску на базе Навукова-тэрміналягічнай камісіі быў створаны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт). Сярод ягоных заснавальнікаў былі Язэп Дыла, Яўхім Карскі, Зьміцер Жылуновіч, Уладзімер Пічэта, а першым старшынём стаў мовазнаўца Сьцяпан Некрашэвіч. У 1928 г. у Інбелкульце было 115 штатных супрацоўнікаў і каля 200 вучоных зь іншых інстытуцыяў супрацоўнічалі зь ім.

У 1924 г. Інбелкульт быў прызнаны вышэйшай дзяржаўнай навуковай установай Беларусі, а ягоным старшынём зрабіўся наркам асьветы Ўсевалад Ігнатоўскі. 13 кастрычніка 1928 г. Інбелкульт рэарганізавалі ў Акадэмію навук. Дзеля пераемнасьці традыцыі, першым прэзыдэнтам Акадэміі абралі Ігнатоўскага.

У 20-я ідэалягічнага ціску на навуку, асабліва гуманістыку, амаль не адчувалася. У 1926 г. Інбелкульт нават зладзіў канфэрэнцыю па рэформе беларускага правапісу, на якую прыехала плойма дасьледчыкаў з Заходняй Беларусі. Але гэта быў толькі пачатак. Сама сыстэма Акадэміі — беспрэцэдэнтна цэнтралізаваная — была прыдуманая для таго, каб паставіць усю навуковую працу ад гісторыі да батанікі пад татальны дзяржаўны кантроль. Навука перастала быць часткаю грамадзянскай супольнасьці і ператваралася ў частку дзяржаўнага мэханізму. Беларускія дзеячы, падманутыя беларусізацыяй, паўдзельнічалі ў закладцы гэтае сыстэмы, каб неўзабаве загінуць.

У 1930 г. ГПУ сфабрыкавала справу Саюзу вызваленьня Беларусі, па якой было арыштавана 108 навукоўцаў, дзеячаў культуры, літаратараў і былых палітыкаў (для параўнаньня: ва Ўкраіне, у некалькі разоў большай, па справе СВУ было арыштавана 45 чалавек). Ігнатоўскаму паставілі ў віну ягоны "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі", які не адпавядаў клясавым падыходам. У студзені 1931 г. Ігнатоўскага зьнялі з усіх пасадаў, выключылі з партыі як "сьвядома правадзіўшага на працягу ўсяго пэрыяду прабываньня ў партыі нацыянал-дэмакратычную ўстаноўку ў сваёй рабоце, зьяўляючагася фактычна кулацкім элемэнтам у партыі". 4 лютага 1931 г., ня вытрымаўшы зьдзекаў, ён застрэліўся. Акадэмія навук, асабліва гуманітарныя аддзелы, была разгромленая дазваньня. Арыштавалі Лёсіка, Ластоўскага, Байкова, Некрашэвіча, Азбукіна, Шчакаціхіна...

Як жартуюць у Акадэміі, пасьля рэпрэсіяў у Беларусі не засталося ніводнага Цьвікевіча, адны Гвазьдзёвы.

Пасьля Ігнатоўскага пасаду прэзыдэнта Акадэміі навук заняў гісторык Павал Горын (Каляда), які запомніўся хіба стварэньнем выкрывальніцкіх групаў зь ліку супрацоўнікаў Акадэміі. У 1935 г. яго адклікалі ў Маскву, а праз два гады расстралялі.

Наступны прэзыдэнт Акадэміі, Іван Сурта, пакіраваў толькі год: яго арыштавалі як шкодніка і расстралялі. Ня ратавала нават колішняя праца ў "органах". А вось мэталазнаўца Канстанцін Гораў пратрымаўся на пасадзе прэзыдэнта да 1947 г.

Гэта былі гады страшэнных рэпрэсіяў. Толькі ў 1937—1938 г. арыштавалі 57 супрацоўнікаў Акадэміі, а ўсяго цягам 30-х у турмы трапіла 140 навукоўцаў з Акадэміі. Большасьць зь іх расстралялі.

У сярэдзіне 30-х партыя пачала нахабна ўмешвацца і ў негуманітарныя навукі. Навуковыя працы мусілі адпавядаць "клясавым падыходам". Віцэ-прэзыдэнт Акадэміі Тамаш Домбаль быў расстраляны як шпіён, бо дасьледаваў рэкі Беларусі.

У траўні—лістападзе 1947 г. прэзыдэнтам Акадэміі быў генэтык Антон Жэбрак, які ў 1945 г. меў неасьцярожнасьць раскрытыкаваць у амэрыканскім часопісе *Science* вучонага-махляра Трафіма Лысенку. Над вучоным наладзілі суд гонару, пазбавілі прэзыдэнцтва і выслалі ў Маскву кіраваць катэдрай у фармацэўтычным інстытуце. Толькі пасьля сьмерці Сталіна Антон Жэбрак вярнуўся ў Менск.

Наступныя кіраўнікі акадэміі — нэўроляг Мікалай Грашчанкаў (1947—1951), біёляг Васіль Купрэвіч (1952—1969), фізык Мікалай Барысевіч (1969—1987) — мусілі кожны свой крок узгадняць з Масквой і КПСС, членамі якой яны былі. Асыгнаваньні на навуку ў Беларусі былі ў два разы меншыя, чым па СССР у сярэднім (адпаведна 2,2% і 5,1%), дый у колькі разоў меншыя за сусьветныя. Навука, паводле савецкіх раскладак, мусіла быць сканцэнтраваная ў Маскве. Туды й вывозілі ўсе таленавітыя кадры.

У часе перабудовы акадэміяй кіраваў матэматык Уладзімер Платонаў, якога ў 1992 г., па ягоным выезьдзе на заробкі ў Нямеччыну, зьмяніў біёляг Леанід Сушчэня. У 1997-м на ягонае месца прыйшоў дырэктар Інстытуту малекулярнай і ядравай фізыкі Аляксандар Вайтовіч, які актыўна праводзіў у Акадэміі палітыку Лукашэнкі, у прыватнасьці, беспасьпяхова ваяваў з Інстытутам гісторыі, "аплотам нацыяналізму".

У пачатку 2001 г. Вайтовіча абралі старшынём у савет рэспублікі, і некалькі месяцаў абавязкі прэзыдэнта выконваў дырэктар Інстытуту лесу Віктар Іпацьеў. У траўні яго зьмяніў біяфізык Ігар Валатоўскі. Ён вызначыўся тым, што на другім усенародным сходзе раскрытыкаваў хібы беларускае эканомікі й грамадзкага жыцьця. Яму не даравалі: дванаццатым прэзыдэнтам Акадэміі прыслалі знаўцу водаправодаў і каналізацыі Міхаіла Мясьніковіча.

**Э.Л.**

# Беларускі шлях Яна Булгака

**На Навагрупдчыне прайшоў пяты міжнародны фотапленэр "Беларускі шлях Яна Булгака", прысьвечаны 125-й гадавіне з дня нараджэньня фотамастака. Прайсьціся сьцежкамі Булгака сабраліся фатографы зь Беларусі, Літвы і Польшчы. Бераг маляўнічага возера Сьвіцязь, Мірскі, Нясьвіскі і Навагрудзкі замкі ў чарговы раз сталіся мадэлямі для амаль 30 фотамастакоў. Іхныя творы складуць калекцыю, якая будзе прадстаўленая на IV Усебеларускім фэстывалі нацыянальных культур у Горадні, а таксама трапіць у Навагрудак, Менск, Варшаву і іншыя гарады з мэтай папулярызацыі спадчыны Яна Булгака.**

**Удзельнікі пленэру прысутнічалі на адкрыцьці выставы "Наваградчына на паштоўках", што складаецца з 14 арыгінальных паштовак Булгака ў музэі Адама Міцкевіча ў Наваградку. А сябры фатаклюбу "Менск" прывезьлі ў падарунак школе вёскі Асташына, што месьціцца ў будынку, дзе калісьці нарадзіўся Булгак, копіі ягоных твораў, знойдзеных у фондах Нацыянальнай бібліятэкі.**

**У літоўцаў і палякаў ужо даўно існуе культ Булгака. Цяпер і беларусы пачалі аддаваць даніну памяці выдатнаму фотамастаку. У дадатак да пленэру й выставаў гарадзенскі скульптар Мікалай Скляр зрабіў памятны мэдаль, а беларуская пошта выпусьціла да ўгодкаў Булгака адмысловы паштовы канвэрт.**

**Дзяніс Раманюк, фота аўтара**





Удзельнікі пленэру Яна Булгака ля Мірскага замку

**Як у іншых?**

## Акадэмікі выбіраюць

### ГІШПАНІЯ

**У Гішпаніі акадэміі навук, што завуцца каралеўскімі, фармальна аб'яднаныя ў Інстытут Гішпаніі.** Аналягічны Інстытут Францыі існуе ў Францыі, такія інстытуты ёсьць і ў іншых краінах. Уласна Гішпанская акадэмія — установа, што займаецца праблемамі гішпанскай мовы. Ейныя функцыі — кадыфікацыя лексычных адзінак, падтрымка лінгвістычных дасьледаваньняў, папулярызацыя гішпаністыкі. Узьніклая ў 1713 г., у XIX ст. яна блаславіла іншыя гішпанамоўныя краіны на заснаваньне сваіх уласных акадэміяў мовы. Цяпер такія існуюць ня толькі там, дзе гішпанская ёсьць афіцыйнай, але і на Філіпінах, на Пуэрта-Рыка, што належыць ЗША. Паміж моўнымі акадэміямі падтрымліваюцца шчыльныя кантакты, хоць не абыходзіцца і без канфліктаў: акадэмія ў былой мэтраполіі аніяк ня можа пазбыцца амбітнай кансэрватыўнасьці.

Акрамя таго, у Інстытут Гішпаніі ўваходзяць юрыдычна самастойныя Каралеўскія Акадэмія гісторыі, Акадэмія мастацтва Сьвятога Фэрдынанда, Акадэмія дакладных, фізычных і прыродазнаўчых навук, Акадэмія маральных і палітычных навук, Нацыянальная акадэмія мэдыцыны, Акадэмія юрыспрудэнцыі і заканадаўства ды Акадэмія фармацэўтыкі. Ва ўсіх акадэміях кіраўніцтва абіраецца самімі акадэмікамі.

### ЭСТОНІЯ

**Эстонская акадэмія навук была заснаваная ў 1938 г. Пасьля рэарганізацыі 1946 г. яна да 1995-га ўлучала ў сябе навуковыя ўстановы (у тым ліку 19 НДІ), праектныя ды тэхналягічныя цэнтры.** Згодна з новым заканадаўствам, першаснай місіяй Акадэміі навук зьяўляецца каардынацыя дасьледніцкай дзейнасьці ў розных галінах навукі і спрыяньне сацыяльнаму, культурніцкаму ды эканамічнаму разьвіцьцю краіны. Прэзыдэнта выбіраюць самі сябры Акадэміі.

### ЛАТВІЯ

**Латвійская акадэмія навук дзейнічае як недзяржаўная ўстанова, але дзяржава апякуецца ёй.** Ад 1994 г. навукова-дасьледчыя інстытуты былі выключаныя са складу АН, але яна актыўна ўзаемадзейнічае зь імі, як і з унівэрсытэтамі. Акадэмія навук трансфармавалася з установы савецкага тыпу ў навуковую інстытуцыю эўрапейскага фармату — у ейны склад увайшлі новыя сябры (у тым ліку замежныя), была ўведзеная рыса ў 70 год, пасьля якой правадзейны сябра губляе права голасу пры разглядзе новых кандыдатураў ды распрацоўцы новых формаў дзейнасьці. Гэтыя зьмены праводзіліся паралельна з агульнай рэформай латыскай навукі.

Цяпер Латвійская АН разьлічаная на 100 правадзейных сяброў зь векавым абмежаваньнем 70 гадоў (у 1997 г. такіх было 68), 50 членаў-карэспандэнтаў (да 65 гадоў), 50 ганаровых сяброў і 100 замежных сяброў. Яе сябрамі зьяўляюцца выбітныя навукоўцы і культурніцкія дзеячы з 14 краінаў, сярод іх — нобэлеўскі ляўрэат Ч.Мілаш, былы прэзыдэнт Дацкай акадэміі навук і пісьменства Г.Срэнсэн, прэзыдэнт АН Літвы Б.Юодка, прэзыдэнт Эстонскай АН Ю.Энгельбрэхт, прэзыдэнт Эўрапейскай акадэміі навукі й мастацтва Ф.Унгер, паэт А.Вазьнясенскі і інш. Аддзел Акадэміі на чале з праф.Блабкінсам дзейнічае ў Нью-Ёрку. Каля паловы правадзейных сябраў АН працуюць у ВНУ краю.

Згодна з заканадаўствам, Акадэмія навук зьяўляецца "законнай аўтаномнай установай, у склад якое ўваходзяць сябры Латвійскай акадэміі навук і якая субсыдуецца дзяржавай. Сойм альбо Кабінэт міністраў маюць права замаўляць правядзеньне адмысловых дасьледаваньняў...". Прэзыдэнт абіраецца Радай.

**Анатоль Уцюговіч**

## Кропкі над "і" ў тапаніміцы

**Ужо ў самым хуткім часе нарэшце будзе вырашаная праблема ўпарадкаваньня геаграфічных назваў у беларускай тапаніміцы. Расставіць кропкі над "і" павінен новы даведнік "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусі", які рыхтуецца ў Інстытуце мовазнаўства НАН пад кіраўніцтвам старшыні рэспубліканскай тапанімічнай камісіі В.Лемцюговай.**

Бяда беларускіх картографаў усіх часоў у тым, што яны рэдка слухалі, як завуць мястэчка людзі, якія ў ім жывуць, арыентуючыся звычайна на мапы, што засталіся ад папярэдняй акупацыйнай улады. Таму замест Мёраў мы маем "Міёры", скапіяваныя яшчэ за царскім часам з мапаў Рэчы Паспалітай. Таму гэтулькі назоваў увайшло ў гісторыю ў чужамоўнай ці скажонай форме: Мінск, Брэст, Драгічын, Навагрудак замест Менск, Берасьце, Дарагічын, Наваградак. Савецкая ж картаграфія ўвогуле ні на што не арыентавалася, зьмяняючы направа і налева ідэалягічна нявытрыманыя (або папросту пэсымістычна-ўпадніцкія) назвы на прымальныя для вуха будаўніка камунізму. Так паўсталі дзясяткі Залогаў Пяцігодкі, Кастрычнікаў, Новых Жыцьцяў. Зрабіць з Гарбоў Рамашкі альбо з Кабыльніку Занарач было раз плюнуць. Аднак новыя назвы прыжываліся цяжка, людзі дагэтуль аддаюць перавагу старым. Фактычна беларуская тапаніміка падзялілася на афіцыйную і вуснамоўную: звалі "як даўней", а пісалі "як культурней".

У новым даведніку будзе пазначаны род кожнага тапоніму, ягоныя формы ў склонах і ліках, існыя варыянты, напісаньне на лацінцы і адпаведная назва па-расейску, якая будзе зыходзіць зь беларускай: "*Пилиповичи*", а не "*Филипповичи*", "*Кастрычник*" а не "*Октябрь*".

**Людміла Гулюк**

## Альтэрнатыўныя Нобэлеўскія прэміі

**58-гадовы літовец Вілюмас Малінаўскас, стваральнік Груцкага парку савецкіх скульптураў, дзе сабраныя помнікі Леніну*&Co* з усяе краіны, быў ганараваны Нобэлеўскай прэміяй міру. Праўда, альтэрнатыўнай. Гэткія ўзнагароды, што ўручаюць ляўрэатам уладальнікі сапраўднай Нобэлеўскай прэміі, прысуджаюцца за працу, якую "немагчыма ці непатрэбна паўтараць".**

"Існуе шмат узнагародаў для добрых спэцыялістаў у сваёй справе, ёсьць і некалькі прэміяў за найгоршыя дасягненьні — напрыклад, сьпіс найгоршых воргаў прэсы або ўзнагароды за найгоршую песьню году. Аднак большасьць людзей не трапляюць ні ў адну, ні ў другую катэгорыі. Для іх мы і прыдумалі прэмію", — гэтак тлумачыць сэнс узнагароды рэдактар гумарыстычнага часопісу "*Annals of Improbable Research*" Марк Абрагамз. У Малінаўскаса, лічыць Абрагамз, добрае пачуцьцё гумару.



REUTERS

Вілюмас Малінаўскас

Альтэрнатыўныя прэміі былі ўручаныя і яшчэ 11 ляўрэатам.

Амэрыканскі біёляг Б.Вэймэр быў ганараваны за вынаходзтва паветранепранікальных майткаў з газавым фільтрам. Мэдык П.Барс з Макгільскага ўнівэрсытэту атрымаў прэмію за дасьледаваньне "Траўмы, якія наносяцца пры падзеньні какосавых арэхаў". Псыхоляг Л.Шэрман з Маямскага ўнівэрсытэту — за працу пад назвай "Уплыў жыцьцярадаснасьці невялікіх групаў дзяцей дашкольнага веку на экалёгію". Прафэсар-фізык з Масачусэтсу Д.Шміт здолеў высьветліць, чаму фіранку душавой кабіны пасьля ўключэньня вады заўжды ўцягвае ўсярэдзіну. У галіне астрафізыкі былі ганараваныя амэрыканскія лекары, якія давялі, што "чорныя дзіркі" ў космасе адпавядаюць усім патрабаваньням пекла.

Удзельнікі ўрачыстасьцяў, якія адбыліся ў Гарвардзкім тэатры, у гонар В.Малінаўскаса апранулі маскі Сталіна.

**Віленскі**

**Водгукі**

## Віктар Халіпаў: "У Быкава ёсьць шанцы"

**На мінулым тыдні 69-гадовы ангельскамоўны пісьменьнік Відыядхар Сураджпрасад Найпал атрымаў Нобэлеўскую прэмію ў галіне літаратуры. Камэнтуе гэтую падзею загадчык катэдры замежнай літаратуры філфаку БДУ Віктар Халіпаў, спэцыяліст у сучаснай ангельскай літаратуры.**

**В.Х.:** Найпал піша ў асноўным пра краіны трэцяга сьвету, піша пра іх як пра не да канца сфармаваныя, недаканструяваныя. Цэнтральны твор, за які ён і быў вылучаны, — раман "Палова жыцьця". Галоўны герой — так бы мовіць, заходні індыец, Вілі Чандэр, — езьдзіць па краінах трэцяга сьвету, дзе межы паміж рознымі цывілізацыямі вельмі ўмоўныя.

**"НН": Ад таго, што сёлета прэмія была прысуджаная Найпалу, шанцы Васіля Быкава атрымаць Нобэля налета пабольшалі ці паменшалі?**

**В.Х.:** Апошнім часам прасочваецца тэндэнцыя дэмакратызацыі, ляўрэатамі робяцца прадстаўнікі невялікіх краінаў. Таму ў Быкава ёсьць шанцы.

**Запісала Л.Г.**

Яўген Вапа,
Марцін Рэмбач

# Правінцыя возьме

Алесь Бяляцкі, каардынатар ініцыятывы "Незалежнае Назіраньне", раптам зьніякавеў. Праз гадзіну пасьля закрыцьця выбарчых участкаў штаб Ганчарыка падаў вынікі выбараў. Паводле іх, Лукашэнка атрымаў 46% падтрымкі, а Ганчарык — 40,6%.

— Будзе другі тур, — трыюмфаваў Ганчарык перад пяцітысячным натоўпам, які сабраўся на Кастрычніцкай плошчы.

У той самы час афіцыйная беларуская тэлевізія інфармавала, што цяперашняму прэзыдэнту выказалі падтрымку каля 80% выбаршчыкаў.

— Гэта яшчэ не канчатковыя вынікі, але тэндэнцыя ўжо відавочная, — казала прадстаўніца Цэнтравыбаркаму, не хаваючы задавальненьня.

Ці ж магла яна паводзіць сябе інакш, калі за некалькі дзён да таго ейная начальніца Лідзія Ярмошына публічна сьцьвердзіла, што мажлівая выбарчая параза Лукашэнкі была б ейнай асабістай няўдачай?

Бяляцкі, у структурах якога працавалі 13 тыс. незалежных назіральнікаў, быў моцна ўражаны. Незалежныя назіральнікі яшчэ доўга не маглі падаць вынікі. Ва ўсіх рэгіянальных аддзяленьнях улада адключыла тэлефоны, электронную пошту, факсы. Назіральнікаў не дапускалі да пратаколаў выбарчых камісіяў. Гадзіну пасьля выбараў ня дзейнічалі ані сотавыя, ані спадарожнікавыя тэлефоны. Ніхто ня быў у стане даць незалежную ацэнку вынікаў.

— Мала таго, што Ярмошына дурыць нам галаву, яшчэ й Ганчарык... — нэрваваўся Бяляцкі, тэлефануючы ў штаб незалежнага кандыдата. Там ён дазнаўся, што Ганчарык укараніў у выбарчыя камісіі 700 сваіх глыбока закансьпіраваных назіральнікаў.

— Застаецца толькі падзякаваць за дапамогу, пра якую ніхто ня ведаў, — іранізаваў Бяляцкі. — Калі ня скажаце ўцямна, што зьвесткі пра 46 і 40,6% зыходзяць ад вашых назіральнікаў, а не ад незалежных, я падчас прэсавай канфэрэнцыі назаву вас хлусамі.

— Гэта пагроза? — пачуў ён у адказ.

Так праз гадзіну пасьля выбараў, якія меліся злучыць беларускую апазыцыю, у ейным асяродзьдзі паказаліся першыя расколіны.

## МІТ ПРА АБ'ЯДНАНУЮ АПАЗЫЦЫЮ

Усе ранейшыя паразы беларускай апазыцыі дэмакратычны сьвет тлумачыў ейным няўменьнем дзейнічаць супольна. Аляксандар Дабравольскі, адзін зь лідэраў Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі, падчас сустрэчы, на якой абмяркоўвалася стратэгія апазыцыйных сілаў перад выбарамі ў парлямэнт у 2000 г., казаў:

— Ня так важна, каб мы прынялі мудрае рашэньне. Ніхто з нас ня мае манаполіі на мудрасьць. Важней, каб мы прынялі супольнае рашэньне.

Апазыцыя зьбіралася байкатаваць тыя выбары, паколькі не было шанцаў пазьбегнуць падтасовак. Толькі Мікалай Статкевіч, лідэр Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, цьвердзіў, што выбары, якія б яны ні былі, даюць партыям шанец на існаваньне ў грамадзкай сьвядомасьці.

Грамада Статкевіча ўзяла ўдзел у выбарах 2000 г., не атрымала ніводнага мандату, зазнала астракізм з боку дэмакратычных асяродкаў і пачала развальвацца.

Такі лёс чакае ўсе дэмакратычныя арганізацыі, якія наважваюцца ісьці на выбары, афіцыйныя вынікі якіх залежаць толькі ад апарату, які падлічвае галасы. Аднак не такія высновы зрабіла з паразы Статкевіча беларуская апазыцыя. Пераважала думка, што няўдалы байкот выбараў і параза Грамады сталіся вынікам таго, што дэмакраты ня здолелі прыняць супольнага рашэньня. Ніхто не падумаў, што гэта ня мае ніякага значэньня, бо праціўнік наперад ведаў, што выйграе.

Вось жа, перад прэзыдэнцкімі выбарамі беларуская апазыцыя даведалася, што яна стаіць перад сьцяной.

— Зладзіць яшчэ адзін байкот мы ня здолеем, — казалі прадстаўнікі дэмакратычных арганізацыяў. — Трэба ўзяць удзел у выбарах, падтрымаць аднаго кандыдата і не даваць уладзе падтасаваць галасы.

Да такіх дзеяньняў заахвочвалі вынікі дасьледаваньняў, якія нязьменна паказвалі, што рэйтынг Лукашэнкі ўпаў да 30%.

Распачаўся працэс вылучэньня супольнага кандыдата. Працэс, як высьветлілася, цяжкі й багаты на дзівосныя павароты.

## ПРАВІНЦЫЯ ЦІ МЭТРАПОЛІЯ?

Ужо доўгі час у асяродках беларускай апазыцыі паглыбляўся падзел на "недаацэненую" правінцыю і сталіцу, якая "думае толькі пра сябе й больш размаўляе з прадстаўнікамі Захаду, чым з уласнымі грамадзянамі".

— Так, тут ціха, спакойна. Нібы да выбараў яшчэ пяць гадоў, — так іранізаваў над санлівай перадвыбарчай атмасфэрай у Менску Віктар Сазонаў, адзін зь лідэраў гарадзенскай апазыцыі.

Для Віктара візыты ў Менск — прычына раздражненьня й нагода для выказваньня пякучых словаў на адрас менскай эліты.

— Менск адно высмоктвае з нас сокі, нічога не даючы ўзамен.

Так думае не адзін Сазонаў. У апошнія гады напружанасьць паміж менскімі палітыкамі й дзеячамі зь беларускіх рэгіёнаў расьце. Прадмет спрэчкі — стратэгія апазыцыі. Спосаб вылучэньня дэмакратычнымі сіламі кандыдата на пасаду прэзыдэнта падліў алею ў агонь.

Нарастаньне канфлікту паміж рэгіёнамі й мэтрапольна-каланіяльным Менскам спыніў быў амбітны палітык Сямён Домаш, чый рух "Рэгіянальная Беларусь" аб'ядноўваў прадстаўніцтвы палітычных партый і няўрадавых арганізацый у рэгіёнах. Са зьяўленьнем "Рэгіянальнай Беларусі" Домаш стаўся паважнай палітычнай фігурай, якую ў Беларусі нельга было ігнараваць. Гарадзенскі палітык мог памірыць апазыцыйныя эліты, што сварыліся за пасады ў сваіх структурах, узмацніць менскія арганізацыі рэгіянальнай падтрымкай.

Домаш, аднак, усьведамляў, што атаясамленьне з адной групоўкай прывядзе яго да страты самастойнасьці. І ён вырашыў ісьці на выбары ў якасьці лідэра кааліцыі грамадзянскага супраціву. Адначасова незадаволеныя дзеячы рэгіянальных структураў убачылі ў Домашу кіраўніка, голас якога раней ці пазьней будзе запатрабаваны ў Менску.

Крызыс у сувязях паміж пэрыфэрыяй і цэнтрам узмацняўся разам з ростам ціску на асяродкі апазыцыі ў рэгіёнах з боку лукашэнкаўскай вэртыкалі. Сёньня ўжо ніхто ня мае сумневаў, што аб'ектам атакі прэзыдэнцкіх структураў у апошнія гады былі перадусім рэгіянальныя дэмакратычныя асяродкі. Затое рэпрэсіі ў Менску не ўзмацняліся. Вядома ж, апроч жорсткіх дзеяньняў, накіраваных пераважна (для перасьцярогі) супраць ранейшых хаўрусьнікаў Лукашэнкі. Такіх, як Ганчар, Захаранка, Старавойтаў, Лявонаў.

Рэпрэсіі супраць правінцыі ўзмацніліся ў апошнія тыдні выбарчай кампаніі. Так, у суседняй з Польшчай Гарадзеншчыне ўлады напярэдадні выбараў спынілі выхад адзінай беларускамоўнай рэгіянальнай газэты "Пагоня",ператрэсьлі гарадзенскую сядзібу БНФ, а Сяргея Мальчыка, каардынатара "Незалежнага Назіраньня", праслухоўваў КДБ.

Разам з узмацненьнем рэпрэсіяў расла надзея мясцовых дзеячоў на Менск. У правінцыі задумваліся, на якую дапамогу з боку цэнтру можа разьлічваць чалавек, пазбаўлены ўладай мажлівасьці працаваць, утрымліваць сябе й сям'ю. Для прыблізна 13 тыс. грамадзянаў, што ўзялі ўдзел у "Незалежным Назіраньні", сёньня гэта жыцьцёва важнае пытаньне. Ці абароняць іх ад рэпрэсіяў дзяржавы? Гэта, можа быць, найважнейшае пытаньне для ўсёй беларускай апазыцыі, якая не пашырыць свайго ўплыву, калі ня возьме на сябе адказнасьці за лёс сваіх прыхільнікаў на месцах.

Віктар Сазонаў з Горадні настроены скептычна:

— Менск пакіне нас на волю лёсу. Прыгадае пра нас толькі перад наступнымі выбарамі.

## КОМПЛЕКС ЛУКАШЭНКІ

За гады свайго кіраваньня Лукашэнка дабіўся некалькіх эфэктных унутрыпалітычных перамог. Ён сарваў спробу імпічмэнту, які рыхтавалі Сямён Шарэцкі і дэпутаты парлямэнту XIII скліканьня, лёгка падоўжыў сабе тэрмін паўнамоцтваў на два гады, а спробу Віктара Ганчара арганізаваць прэзыдэнцкія выбары ў 1999 г. ператварыў у гратэск. Лукашэнка паводле ўласных законаў правёў выбары новага парлямэнту, дэпутаты якога, відаць, хутка стануцца адзінымі прадстаўнікамі беларускага парлямэнтарызму ў эўрапейскіх структурах. Сямён Шарэцкі, старшыня Вярхоўнага Савету XIII скліканьня, тым часам пакінуў віленскую эміграцыю ды зьехаў у Злучаныя Штаты.

Досьвед прэзыдэнцкіх выбараў 1994-га вымушаў апазыцыю ў 2001-м шукаць новых асобаў, адпаведных уяўленьням беларускага грамадзтва пра свайго прэзыдэнта. У 1994 г. беларусы падтрымалі кандыдата правінцыі (Лукашэнка падчас выбарчай кампаніі ўсімі сіламі падкрэсьліваў сваё паходжаньне з Магілёўшчыны). Акрамя таго, ён абвяшчаў сябе праваслаўным атэістам, тады як ягоныя канкурэнты — Кебіч, Пазьняк і Шушкевіч — былі каталікамі зь Менску.

Рэлігійны і цывілізацыйны чыньнікі значна ўплываюць на вынікі выбараў у Беларусі. Аднак лідэры беларускай апазыцыі гэтага ня ўлічваюць. Тады як Лукашэнка падчас прэзыдэнцкай кампаніі пасьлядоўна выкарыстоўваў аўтарытэт праваслаўнай царквы. У дадатак, беларусы і ў 1994 г., і цяпер хацелі мець прэзыдэнта маладога, энэргічнага й не зьвязанага з пэўнай палітычнай партыяй. Таму Сямён Домаш быў сур'ёзным прэтэндэнтам на прэзыдэнцкае крэсла. Калі б ён пайшоў на выбары, мы сталіся б сьведкамі змаганьня не абы-якіх спартоўцаў — Лукашэнкі, які парушае правілы гульні ня толькі ў палітыцы, але і на лядовым катку, і Домаша, што займаўся боксам у маладосьці й сьмела адказвае ўдарамі на ўдары, нават калі праціўнік наносіць іх ніжэй поясу. Трэ было толькі кінуць пальчатку і вызначыць правілы гульні.

## МЕНСК КОНТРАТАКУЕ

Для беларускай дэмакратычнай апазыцыі, увасобленай у БНФ, АГП і яшчэ пяцёрцы партыяў, невыканальнай задачай стала вылучэньне са сваіх шэрагаў кандыдата ў прэзыдэнты. Усе разумелі патрэбу кансалідацыі й еднасьці апазыцыі. Зьяўленьне Каардынацыйнай Рады Дэмакратычных Сілаў давала палітычна заангажаваным грамадзянам надзею на тое, што падзеі можна будзе прымусіць разьвівацца па сваім сцэнары.

Адсутнасьць уласнага кандыдата, атаясамленьне з дэмакратычнай апазыцыяй людзей з лукашэнкаўскай намэнклятуры, якія трапілі ў ягоную няласку, прывяло да размываньня выразнасьці панятку "дэмакратычныя сілы" ў грамадзкім уяўленьні. Такая сытуацыя спрыяла Домашу, які паходзіў з адміністрацыйнай намэнклятуры і адначасова меў статус апазыцыйнага палітыка. Дзякуючы незалежным мэдыям яго пачалі пазнаваць ва ўсёй Беларусі. Падарожнічаючы на ўсход і захад Эўропы, ён вучыўся салённых манэраў й заваёўваў давер розных палітычных колаў.

Узровень папулярнасьці Лукашэнкі марудна, але стабільна падаў. Беларуская постсавецкая намэнклятура, адсунутая прэзыдэнтам ад улады, заўважыла гэтыя працэсы і вырашыла ўлучыцца ў выбарчую гульню. Пры гэтым яе не задавальняла пазыцыя памочнікаў у гэтай гульні, яе прадстаўнікі прэтэндавалі на ролю галоўных хаўбэкаў. Зьяўленьне сярод патэнцыйных кандыдатаў у прэзыдэнты былога прэм'ера Міхаіла Чыгіра, шэфа афіцыйных прафсаюзаў Уладзімера Ганчарыка, былога міністра абароны Паўла Казлоўскага, пасла Беларусі ў Латвіі Міхаіла Марыніча сьведчыла, што намэнклятурны істэблішмэнт ня меў намеру ў гэтай гульні даваць пасаў гарадзенскаму дэпутату Вярхоўнага Савету XIII скліканьня Сямёну Домашу.

Пачалася намэнклятурная гонка за тытул адзінага кандыдата ад аб'яднанай дэмакратычнай апазыцыі.

Аляксандар Лукашэнка пляскаў у далоні ад такога разьвіцьця падзеяў і спакойна рыхтаваў выбарчы вынік, які ён меўся абвясьціць 9 верасьня.

## ВАРЫЯНТ БЕЛАРУСКІ, СЭРБСКІ...?

Працэс вылучэньня незалежнага кандыдата быў адпрацаваны падчас адхіленьня ад улады ў Сэрбіі Слабадана Мілошавіча. Для беларускай намэнклятуры які-кольвек рэвалюцыйны варыянт быў непрымальны. А вось некаторыя ўплывовыя апазыцыйныя асяродкі пачалі спэкуляваць на тэму магчымасьці рэалізацыі ў Беларусі сэрбскага варыянту. Гэтыя заявы, безумоўна, скарыстаў прапагандысцкі апарат Лукашэнкі. Апазыцыйныя акцыі пратэсту, Маршы Свабоды давалі рэжыму магчымасьць лякаць грамадзтва, якое дагэтуль адчувае боль другой сусьветнай, відзежай грамадзянскай вайны. Апазыцыя ж ня мела доступу да сродкаў масавай інфармацыі, а таму не магла выказацца наконт гэтага.

Сумным досьведам для беларусаў, якія бралі ўдзел у апошнім Чарнобыльскім Шляху, было тое, што на чале калёны не было патэнцыйных кандыдатаў у прэзыдэнты, лідэраў палітычных партыяў. Галаву калёны склалі школьнікі і студэнты. Перад тым ані-водзін з кандыдатаў ня ўзяў удзелу ў сьвяткаваньні 83-х угодкаў абвяшчэньня беларускай дзяржаўнасьці ў Менску.

Частка беларускіх дэмакратычных палітыкаў зразумела, што іх выкарыстоўваюць у намэнклятурных гульнях. Пачалі зьяўляцца роспачныя сцэнары. Была нават ідэя прасіць Васіля Быкава, які знаходзіцца ў эміграцыі, вярнуцца ў краіну і выставіць сваю кандыдатуру. Але такія задумы ўжо ня мелі аніякіх шанцаў на рэалізацыю. Выбарчая машына апазыцыі пачала працаваць на стварэньне палітычнага тандэму: Ганчарык — прэзыдэнт, Домаш — прэм'ер. Гэта мела быць спроба кансэнсусу паміж амбіцыямі намэклятуры й спадзяваньнямі беларускага грамадзтва.

Зьдзіўляе, што Сямён Домаш, які займеў найбольшую падтрымку рэгіянальных структураў і грамадзкай думкі, зьняў кандыдатуру на карысьць Ганчарыка. Гэтае ягонае рашэньне мела нэгатыўны ўплыў на і без таго кароткую выбарчую кампанію.

Многія спадзяваліся, што Ганчарык як шэф мільённых афіцыйных прафсаюзаў улучыць іх у актыўную выбарчую кампанію, а 9 верасьня выведзе сто тысячаў рабочых на плошчу перад Палацам Рэспублікі. Але неразваротлівыя ды абыякавыя прафсаюзныя структуры не ахвяравалі на карысьць свайго лідэра нічым, апроч манумэнтальнага палацу. Гэта сталася найбольшай драмай Уладзімера Ганчарыка й катастрофай канцэпцыі, згодна зь якой беларуская апазыцыя на выбарах мусіла падпарадкавацца былой намэнклятуры.

## ВЫБАРЧЫЯ РОЛІ

Адсутнасьць у асяродках апазыцыі лідэра, які мог бы ўзяць на сябе цяжар кандыдацтва, выявіла, што падзел выбарчых роляў у зьвязе "намэнклятура-апазыцыя" выглядаў гэтак: прадстаўнік былой намэнклятуры выстаўляе сваю кандыдатуру і праводзіць кампанію, а апазыцыя дбае, каб не было фальсыфікацыяў з боку ўлады.

13 тыс. назіральнікаў мусілі лічыць, колькі грамадзянаў наведалі ўчасткі як у час датэрміновага галасаваньня (4—8 верасьня), так і ў дзень выбараў (9 верасьня). Трэ было праверыць, ці не прымушае ўлада выбарцаў да заўчаснага галасаваньня, бо якраз між 4 і 8 верасьня камісіям, падкантрольным апарату Лукашэнкі, найзручней было падмяніць галасы ў скрынях, якіх уначы ніхто не пільнаваў. Каб фальсыфікацыі дасягнулі патрэбнага аб'ёму, улада ўсяляк заах-

**ЯЎГЕН ВАПА — адзін зь лідэраў беларусаў Беласточчыны і сузаснавальнік "Радыё Рацыя".**
**МАРЦІН РЭМБАЧ — супрацоўнік Цэнтру грамадзянскай адукацыі "Польшча—Беларусь".**

# рэванш






АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

вочвала людзей да датэрміновага галасаваньня.

Другой задачай незалежных назіральнікаў быў збор зьвестак з выніковых пратаколаў камісіяў (ужо пасьля верагоднага фальшаваньня) і перадача іх вышэй — у раённыя, абласныя й сталічныя камітэты. Такім чынам “Незалежнае Назіраньне” мела прадухіліць падтасоўкі вынікаў у раённых, абласных і цэнтральнай выбарчых камісіях.

Дзеяньні адміністрацыі паказалі, якія наіўныя былі меркаваньні стваральнікаў сыстэмы незалежнага назіраньня. Ужо на другі дзень датэрміновага галасаваньня ў выбарчыя камісіі трапіла інструкцыя, якім чынам нэўтралізаваць дзеяньні назіральнікаў. Належала, між іншым, садзіць назіральнікаў на месца, зь якога не відаць выбарчых скрыняў, і не дапускаць іх да пратаколаў. Камісіі ў адміністрацыйным парадку падпарадкоўваліся гэтым рэкамэндацыям, а назіральнікам засталося падаваць у пракуратуру інфармацыю пра павальныя выпадкі парушэньня выбарчага права.

Шырока рэклямаваная ў грамадзтве сыстэма незалежнага кантролю за выбарамі спрычынілася да стварэньня ў выбарцаў уражаньня, што вынікі, якія абвесьціць Цэнтравыбаркам, будуць больш-менш верагоднымі.

У дзень выбараў цяжка было спаткаць у Менску чалавека, перакананага, што Лукашэнка выйграе ўжо ў першым туры. Прага зьмены ўлады была ў беларускім грамадзтве вельмі моцная. Грамадзтва паверыла, што гэтае зьмены можна дасягнуць з дапамогай выбарчага бюлетэня. Такога самага, як той, што сем гадоў таму даў Лукашэнку ўладу.

Таксіст тлумачыў нам у Менску 9 верасьня: Лукашэнка ня можа перамагчы.

— Я галасую за Ганчарыка, мая жонка, сваякі, усе знаёмцы, — казаў ён з запалам.

Менскія лідэры апазыцыі праектавалі варыянты дзейнасьці на выпадкі, калі ЦВК абвесьціць вынік Лукашэнкі на ўзроўні 48% ці 52%. Усе былі перакананыя, што грамадзкі ціск стрымае Лукашэнку ад абвяшчэньня няпраўдзівых вынікаў.

Тым часам ужо праз гадзіну пасьля закрыцьця выбарчых участкаў цэнтральныя мэдыі Беларусі пачалі казаць пра 80%-ю перамогу прэзыдэнта. У чарговы раз выявілася, што Лукашэнка — шахматыст, які перакульвае дошку ўжо пры найменшай пагрозе.

Зьвесткі, пададзеныя ЦВК, шакавалі менскую інтэлігенцыю.

— Як гэта можа быць? 80%? Але якім чынам ён гэта сфальшаваў? Ёсьць жа ў скрынях галасы, нехта ж іх лічыць, перадае вышэй, гэта немажліва, — казаў нам адзін перакладчык польскай літаратуры.

Ствaралася ўражаньне, нібы за адну хвіліну абрынулася ўсё ягонае ўяўленьне пра беларускую палітыку.

### ТРЫ ЧВЭРЦІ ГРАМАДЗТВА. НАВОШТА ЯМУ ГЭТА БЫЛО?

Усе аналітыкі пагаджаюцца, што гэтыя выбары Лукашэнка мог выйграць, нават нязначна сфальшаваўшы вынікі. Можа, нават без фальшаваньня. Ён абраў, аднак, варыянт разгромнай перамогі, у якую ніхто ў Беларусі ня верыў. Ён прынізіў тым самым і апазыцыю, і Ганчарыкаву намэнклятуру, і таксіста, і інтэлігента. Ён стварыў у грамадзтве агрэсіўны настрой, які можа прывесьці да стварэньня шырокага фронту грамадзянскага супраціву. Навошта яму гэта было?

Парадаксальна, але для Лукашэнкі менш важны ягоны асабісты вынік. Найважней, каб апазыцыйны кандыдат атрымаў падтрымку на тым самым узроўні, як сем гадоў таму Зянон Пазьняк. Гэта павінна стварыць уражаньне, што сіла апазыцыі не расьце. Лукашэнка шматкроць абвяшчаў, што цалкам прымае апазыцыю на роўні 15%. Такая апазыцыя не зашкодзіць яму зьмяніць канстытуцыю, каб падоўжыць тэрмін кіраваньня.

Але ёсьць яшчэ адзін аспэкт, што патрабаваў пераканаўчай перамогі Лукашэнкі. У дзень беларускіх выбараў Уладзімер Пуцін распачаў дыялёг з чачэнскімі партызанамі. За два гады да таго, змагаючыся за ўладу, ён падараваў Расеі найдаражэйшую выбарчую кампанію ў гісторыі дэмакратыі — вайну. Дзякуючы ёй і выйграў у першым туры прэзыдэнцкіх выбараў. Атрымаў 52% падтрымкі. Лукашэнка ж, згодна са зьвесткамі Цэнтравыбаркаму, атрымаў больш за 75% галасоў, ня стрэліўшы паза палігонам нават з цацачнага пісталета.

Праз тры гады прэзыдэнцкія выбары ў Расеі. Можа быць — ужо зьяднанай зь Беларусяй. Сёньня занадта рана прарокаваць, хто атрымае на іх 15%. Тым часам Пуціну, які адразу ж зразумеў значнасьць выбараў у Беларусі, не заставалася нічога іншага, як павіншаваць Лукашэнку.

### ВОСЕНЬ ПАТРЫЯРХА

“Наша Ніва”, уплывовы штотыднёвік беларускай інтэлігенцыі, у пасьлявыбарны панядзелак побач з лягатыпам лякапічна сьцьвердзіла: Ганчарык прайграў. На старонках выданьня зьявіліся два тэксты, назовы якіх у сваіх беспасярэдніх асацыяцыях зьвяртаюцца да лацінаамэрыканскай мадэлі ўлады. Гэта тэкст Валеркі Булгакава “Прэзыдэнт усіх крэолаў”, які аналізуе беларускую палітычную сцэну, і эсэ Сяргея Паўлоўскага “Восень патрыярха” — пра беларускую літаратуру, Габрыэля Маркеса й ягоны твор. Каля гэтага тэксту зьмешчаны маленькі здымак Аляксандра Лукашэнкі ў новапашытай да дня нараджэньня форме генэралісімуса. Партрэт ганарыстага ібэра-амэрыкана-беларускага аўтакрата мог бы стаць аздабленьнем чыноўніцкіх кабінэтаў, школаў, тэатраў і станцый мэтро. Праблема палягае толькі ў тым, што праекцыі самога Лукашэнкі наконт будучыні непрадказальныя, апроч аксіёмы, што яму хочацца мець і пашыраць уладу. Хіба толькі пісьменьнікі, а не паліголягі й аналітыкі, могуць прагназаваць паводзіны Лукашэнкі ў будучыні. Пра тое, што азначае прэзыдэнцтва Лукашэнкі для Беларусі й Эўропы, размаўлялі 9 верасьня ў Праскім Градзе чэскі прэзыдэнт, пісьменьнік Вацлаў Гавал і Васіль Быкаў — сумленьне беларускае нацыі.

Тым часам Лукашэнка на выбарчым участку, дадаючы яшчэ адзін голас да сваёй перамогі, засьведчыў пры нагодзе, што яго не цікавіць, прызнае Захад вынікі выбараў ці не. У такім самым духу адказаў шмат чым абавязаны яму Павал Барадзін, а палітычны дарадца прэзыдэнта Сяргей Посахаў у інтэрвію *Белорусской Деловой Газете* на адрас АБСЭ выказаў толькі грубыя вульгарызмы. А эўрапейскія назіральнікі на наступны дзень пасьля выбараў, апроч цьверджаньня, што выбары ў Беларусі былі недэмакратычныя, прызналі, што палітыка ізаляцыі таксама не прынесла аніякіх вынікаў і яе трэба зьмяніць.

Для Міхаіла Хвастова, міністра замежных справаў Беларусі, гэта найлепшы падарунак. Ён аддзячыў падчас сваёй прэсавай канфэрэнцыі цьверджаньнем, што мэтай беларускай замежнай палітыкі будзе імклівае збліжэньне з эўрапейскімі структурамі, а можа быць — нават удзел у Эўрапейскім Зьвязе.

Энтузіязм жа шараговых дзеячоў апазыцыі зьмяніўся чарговым расчараваньнем. Ва ўспрыманьні многіх актывістаў паводзіны палітыкаў прыпадабнілі апазыцыйныя эліты да постсавецкай намэнклятуры. Гэта можа выклікаць вялікія ператасоўкі на апазыцыйнай палітычнай сцэне Беларусі ўжо ў найбліжэйшы час.

**Пераклад з польскай. Назва артыкулу ў арыгінале: *Białoruskie warcaby wyborcze.***

## Казкі жыцьця

# Калекцыянэры

Знаёмага чалавека нядаўна аблічылі пры пакупцы гародніны. Прадаўшчыца — звыклы выгляд: распараная бульбіна ў шалупайках брудноватай цёмнай кофтачкі — два разы пералічвала кошт зробленай пакупкі, нібыта калекцыянэр, які часам гатовы на ўсё дзеля папаўненьня калекцыі яшчэ некалькімі адзінкамі...

Параўнаньне з калекцыянэрам невыпадковае. Згодна з прагнозамі футуролягаў, грошы і сапраўды будуць паступова выводзіцца зь людзкога ўжытку. І таму найбольш здагадлівыя людзі ўжо цяпер, відаць, пачалі зьбіраць іх як будучыя экспанаты якогась Музэю старажытнасьцяў у Сонечнай сыстэме (кшталту Музэю старажытнасьцяў у Замосьці Аляксандра Ельскага ў XIX—XX ст., гэтаксама якраз на зломе эпохаў). Кожны з нас ведае: чым больш грошай, тым больш дабротаў можна набыць за іх. Але ёсьць нейкая іншая — парадаксальная ісьціна: грошы (наяўныя) з нашай Зямлі зьнікаюць! Прычым найперш у самых багатых краінах.

Глябалізм, як абуджаны міталягічны Дракон зь мінулага, уладарыць на плянэце. Ён “зьядае” наяўныя грошы. Яны ня маюць ніякага значэньня — папяровыя грошы, мэталёвыя манэткі, квітанцыі... Застаюцца толькі магнітныя карткі, электронныя знакі, асьветленыя невядомымі зарніцамі Ўсясьветнага агню будучыні... Буйныя і драбнейшыя фінансавыя плыні цяпер рэгулююцца вокамгненнна з дапамогай кампутараў і Інтэрнэту. У матэрыялізацыі грошай няма патрэбы. Грошы — яны і сапраўды, як падказвала нам столькі стагодзьдзяў беларуская мова, “горшыя”.

**Людка Сільнова**

## Новы праект “Нашае Нівы”



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якая будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы “Беларусь праз 100 гадоў”. З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

## БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Кланаваньне Багдановіча

Менск ператворыцца ў вялізны мэгаполіс — разрослы “спальны раён”, заселены нашчадкамі мёртвых вёсак і імігрантамі з расейскай глыбінкі. Дзесьці за сьцяной і кольцам аховы згубіцца гістарычны цэнтар і “элітныя” дамы. Канцэсію на выкарыстаньне Чарнобыльскай зоны прададуць увішнаму немцу.

Спробы кланаваць вядомых людзей скончацца расчараваньнем — двайнік Максіма Багдановіча не захварэе на сухоты, аднак і не напіша чагосьці значнага. Малацікавы, знэрваваны ўсьведамленьнем уласнай выключнасьці і патрэбай яе спраўдзіць чалавек.

Нашчадак маладых беларусаў, што эмігравалі за акіян на пачатку XXI стагодзьдзя, фантастычна разбагацее. Узгадаваны на мітах пра вольную Беларусь, ён выкупіць на поўдні Атлянтыкі востраў і створыць там беларускую калёнію, запросіць перасяленцаў ствараць нацыянальную дзяржаву, асновай эканомікі якой будзе экспарт какосавых арэхаў і бананаў. Перасяленцы зьмяшаюцца зь мясцовымі мурынамі і сынтэзуюць іхныя рытуальныя песьні з сакральнымі “Крынічэнькамі”. На востраве запануюць муляты і піджын-беларушчын.

Аналягічныя беларускія рэзервацыі на тэрыторыі мэтраполіі, у прыватнасьці, у Чарнобыльскай зоне, будуць мець характар аўтарытарных сэктаў.

А чалавечая натура ў найбліжэйшыя сто год ня зьменіцца. Таксама нехта будзе бунтаваць за вяртаньне да натуральнага, “продкавага” ладу жыцьця — толькі тады ўжо будуць паўставаць супраць сьвету робатаў, клонаў і мэханістыкі. Паўстанцы страсуць музэйны пыл з кніжак, зноў пачнуць слухаць клясычную музыку і ствараць рэалістычнае мастацтва. Палюбяць вырабляць уласнымі рукамі простыя рэчы для хатняга ўжытку: збаны, драўляныя лаўкі, сурвэткі. Рабіць і нараджаць дзяцей яны будуць натуральным шляхам, а не праз штучнае апладненьне або кланаваньне, адновяць культ манагамнага шлюбу і цнатлівасьці. Іхныя ідэйныя праціўнікі, аматары “дабротаў цывілізацыі”, будуць увесь вольны час бавіць у нірване дзякуючы стымулятарам задавальненьня, ужыўленым проста ў мазгі разам з імітатарамі каханьня.

Ды палітыкам будзе проста маніпуляваць натоўпам, бо ўсе забаўляльныя СМІ будуць мець выхад непасрэдна ў мазгі кожнага.

**Людміла Рублеўская**

## *Адам Глёбус*

# Што можа быць прасьцейшым



* * *

Пакроім хлеб,
Макнем у соль цыбулю,
Глынем па пяцьдзясят
Жывой вады...
І не бяды.

* * *

Зьбіраць грыбы...
Што можа быць прасьцей,
калі зь дзяцінства
ведаеш пра месца,
дзе пад імхом
хаваюцца лісічкі?..
Ідзеш і набіраеш
поўны кош.

*ЛІПЕНЬСКІЯ ХАЙКУ*

* * *

Сонечны ранак
лебедзі на возеры
зьнерухомелі.

* * *

Прадавец павет-
раных зьмеяў гандлюе
на скрыжаваньні.

* * *

На ўскрайку вёскі
недабудаваны дом
мокне пад дажджом.

*ВЕРАСЬНЁВЫЯ ХАЙКУ*

* * *

Вецер забаўля-
ецца зь пёркамі на гру-
дзях у сініцы.

* * *

Малюю клёны —
залатую расхрыста-
насьць на могілках.

---

### *Арцём* АРАШОНАК

* * *

Пасярод поля
Адзінокі Буда...
Стары валун.

### *Алесь* АРКУШ

* * *

прачнуліся птушкі — а дзень
ужо скончыўся
пець пачалі — сонца клікаць
сонца пабудзілі — самі
стаміліся
сон змарыў — дзе сядзелі,
там і паснулі
а тая, што ў палёце была,
зоркай зазьзяла —
вечарніцай

*КАМЯНІ*

Калі нахіляешся і пачынаеш
разглядаць камяні
на беразе Палаты, якая
выгініста
агінае полацкі Верхні замак,
нечакана ўсьведамляеш —
большасьць зь іх
выкарыстоўвалася ў
якасьці зброі.

*ГЕАПАЛІТЫЧНЫЯ ЗЬМЕНЫ*

Некалі купцы,
што праплывалі па Дзьвіне
шляхам з варагаў у грэкі,
плацілі мыту полацкаму
князю.

Тыдзень пільнуем раку.

Ні купцоў, ні мыты.

### *Андрэй* ВАЛОШКА

* * *

Пад жалезны скрыгат
І жахлівае гудзеньне
Цягнік запавольваў рух.
Іскры ляцелі на ўтравелы
адхон,
Бы зьнічкі.
Нехта ратаваў сваё жыцьцё,
Бегучы па рэйках.

### *Анатоль* ГАРАЧОЎ

*БРАХУНЫ*

Тэлевізар гляджу
Альбо радыё слухаю —
То за вухам чашу,
То патыліцу чухаю.

Не магу зразумець:
Па чыім жа заданьні
Пачынаюць шыпець
З тэлевізара здані.

Колькі ж злосьці у іх
Языком гэтак ляпаць,
Каб герояў сваіх
Аддалі мы палякам.

"Той Касьцюшка чужы" —
Нам з экрану гавораць
І ўжо ставяць крыжы
На Міцкевіча творах.

І няма ўжо сумненьня:
Стала польскаю пешкай
Наш дзівосны Пісьменьнік —
Алаіза Ажэшка.

Перад шляхам няблізкім
У смаргонскіх лясах,
Не для нас наш Агінскі
Палянэз напісаў.

Не за нас ваяваў,
Не за нашыя вёскі,
Сваю "Праўду" пісаў
Не для нас Каліноўскі.

І палякам жа зноў
Стане хутка Купала,
Бо чужых, польскіх слоў
Скарыстаў ён нямала.

Яшчэ покуль маўчаць,
Не гавораць уголас,
Каб палякам аддаць
Багдановіча, Коласа.

І стаяць жа гарой.
Зноў і зноў нам гавораць:
"Наш народны герой —
Аляксандар Сувораў".

Тут ні кроплі ілжы,
Гэта праўда, славяне,
Сапраўды, ён душыў
Нашых продкаў паўстаньні,

Ажно жылы гулі
Ад ягонае славы,
Каб з Расеяй былі,
Каб ня зналі Варшавы...

...Пашкадуйце ж людзей,
Не плявузгайце злосна.
Да чаго ж давядзе
Нас такая галоснасьць?

### *Аляксандар* ЗАВАДЗКІ

* * *

Адпачні, сонечны погляд,
у нябесным прасторы,
у руху промняў,
у людзкім слове,
у неба ходзе,
у зямных далонях,
у набліжэньні вёснаў.

* * *

уяўнасьць уяўнага
прыйдзе сапраўднасьць
па волі ўзыдзе
адчуваньні зблізіць
узычыць уложыць
прывітаньнем зможа
зьдзейсьніць мову
слоў прадмову
гучаньня хору
як заклік мора

* * *

шляхі зьмястоўнасьці
наяўнасьці й верагоднасьці

прыгажосьць зьмястоўна
каляруе моўнасьць

ад прыгожых думак
найлепшыя пачуцьці

### *Міхась* КУРЫЛА

*БАБІНАЕ ЛЕТА*

Яшчэ ў паркаль захутаны
абшары,
Прагалаў гул зьбірае пах
лясны,
А прымаразку пырскі над
папарам —
Як першыя прыкметы сівізны;
Трава падсьветкай каранёў
сагрэта,
Паблісквае возера міраж...
Ды тчэ красёнцы бабінае
лета
І карэктывы ўносіць у
пэйзаж.

### *Янка* ЛАЙКОЎ

*БЕЛАЯ МАЛАНКА*

Белая маланка ў хату
заляцела,
Белая маланка німб
бліскучы мела.
Белая маланка спапяліць
мяне хацела,
Але не пасьпела.

Белую маланку я схаплю
аберуч,
Белую маланку я шпурну за
дзьверы.
Белая маланка скоціцца па
ганку,
Зьнікне ўсьлед за ночкай,
Зьнікне ўсьлед за ранкам.

"Пачакай, маланачка!" —
закрычу я ўсьлед ёй
І застыгну раптам,
амярцьвелы, бледны, —
На свае абпаленыя гляну
далані,
А па іх скакацьмуць белыя
агні.

### *Міхал* СТЭЛЬМАК

*ВЯРТАНЬНЕ ДА БОГА*

Дзед набожным пражыў
чалавекам.
Бацька ўпотайкі згадваў
Хрыста.
Сын,
Ахвяра дзікунскага веку, —
Атэіст,
Камуніст.
Ды настаў
Новы век.
Грымнуў гром
Ачышчэньня.
І аднойчы ў царкоўную ціш
Сын прыйшоў,
І прыпаў на калені,
І заплакаў,
Цалуючы крыж.

### *Віка* ТРЭНАС

*НІЧОГА*

Я нічога ня ведаю і ня чую.
Магчыма, таму і ты мяне ня
ведаеш і ня чуеш.
Такое глупства, такое белае
і чорнае,
Малое і дарослае, дурное і
разумнае,
Адразу ў адным позірку,
сьмеху і плачу.
Я нічога ня ведаю і ня чую.

---

# Сучасьнікі і суайчыньнікі

*Фотаальбом у прозе*

### 1976. ЛЬДОКАЎ І ІМПАТЭНЦЫЯ

Аматар вершаў а-ля Пастарнак і жывапісу а-ля Суцін Саша Льдокаў у шчырай начной гутарцы прызнаецца, што страшэнна баіцца імпатэнцыі: "Калі не змагу кахаць, у сэнсе я...ці, жанчыну, я застрэлюся". Мяне шакуе і шчырасьць Льдокава, і псыхічная залежнасьць ад эрэкцыі. Маіх аргумэнтаў, што жыцьцё мастака не залежыць наўпрост ад чэлеса, ён не ўспрымае. Пасьля той размовы нашае сяброўства скончаецца. А калі я даведваюся пра заўчасную сьмерць паэта-мастака, чамусьці думаю пра бязьлітаснасьць прыроды, якая бяз нашае згоды прыводзіць сьмяротны прысуд у выкананьне.

### 1985. КОЎЗУСЬ І ЗРЭНКІ

— А я доўга думаў, як гэта ты робіш такі страшны, такі зьвярыны погляд. Ты нахіляеш галаву, глядзіш з-пад ілба, а яшчэ закрываеш верхнімі павекамі палову зрэнак... — кажа мне маляўнік Уладзімер Коўзусь, ня ведаючы, што мае вочы баяцца сьвятла, павекі закрываюць палову зрэнак чыста мэханічна.

### 1991. МАЗГО Й ПАРНАЗОРКІ

Рэдактар выдавецтва "Юнацтва" Ўладзімер Мазго ведае імёны й мянушкі большасьці эўрапейскіх парназорак, абазнаны ён і ў назовах порнакінастужак. Зрэшты, рэдактар выдавецтва з такой назваю і мусіць ведаць прадмет захапленьня сваіх чытачоў. А яшчэ, калі Валодзя Мазго застаецца ў кватэры адзін, ён запальвае ўсе лямпачкі, заводзіць магнітафон, уключае тэлевізар і піша дзіцячыя вершы сярод фэерычнай какафоніі са сьвятла й гуку.

### 1994. РАБЦАЎ І МЫЛА

Ёсьць пісьпісьменьнікі, якія намыльваюць язык малінавым мылам і мыльнаягадным голасам надыктоўваюць агідныя романы на дыктафон. Такі мыльны пісьпісьменьнік — Гена Рабцаў. Мне млосна ад гуку мыльнага голасу, запісанага на стужку, што казаць пра тыя романы. Але чытальнікаў мыльных раманаў мільёны, як слухальнікаў малінава-мыльных сьпеваў і глядзельнікаў ружова-мыльных сэрыялаў, таму пісьменьнік заўсёды застанецца з кавалкам працы, хлеба й мыла.

### 2001. ДРАКАХРУСТ І ВЕРА

Карэспандэнт Юры Дракахруст робіць на Радыё Свабода перадачу пад назваю "Ісус Хрыстос і дамавікі". У сваіх развагах пра Веру ён абапіраецца на статыстыку: атэістаў у Беларусі 2%, вернікаў 60%... Вось ён, сатанастатыстызм, — у развагах пра Веру абапірацца на бухгальтарскую навуку.

### 2001. ЧЫКІН І ТАТУІРОЎКА

Пэнсіянэр Камуністычнай партыі Чыкін зусім страціў запал. Няма іскры, здатнай падпаліць полымя рэвалюцыі ў акамянелай душы Віктара. Перажыў, бедалага, свой лёс і лёс сваёй партыі. І праца на гадзіньнікавым заводзе не дапамагала пралічыць вятры пераменаў. Старасьць ня радасьць. І ня зможа таварыш Чы выбіць на грудзях татуіроўку з таварышам Чэ. Слабы. А вось барсэлёнскія прастытуткі кубінскага паходжаньня могуць. Не на грудзях, праўда, а на сьпіне. Так што ёсьць яшчэ ўзоры ў камуністычных колах. І ёсьць з каго браць прыклад Чыкіну — з байцоў на сэкс-фронце, з нашчадкаў Сталіна і Чэ Гевары.

**Адам Глёбус**

## Вінцэсь Мудроў




— Ну... мы пойдзем?!

Галасы прагучалі глуха, няпэўна, і Русін, махнуўшы рукой, зморана выдыхнуў:

— Ідзіце...

Хлопцы — увечары займалася старэйшая група — заляпалі босымі нагамі па мокрай падлозе, грукнулі дзьвярыма, з высокай столі ўпала, зычна гулькнуўшы ў вадзе, самотная кропля, і вушы заклала непрытомная ціша.

Русін зьмежыў павекі. Хваравітая замарач зрабіла цела лёгкім, нават бязважкім, сэрца пакінула біцца, і ўваччу шарай патарочай паўстала піраміда Куікуілька. Піраміда — аж да самага вяршка — была ахутаная смугою. Густая, падфарбаваная вечаровай барвай смуга вісела над горадам, засьціла сонца, рабіла нябачнымі высозныя гмахі Тлальпану; паветра таксама было густым, і, удыхнуўшы яго на поўную грудзіну, Русін стоена пасьміхнуўся.

Дзіўна, але кожнага разу, калі Русіна апаноўвала хваравітая стома і ён ляжаў нерухомы на мулкай лаве, яму мроіўся вечаровы Мэхіка. І ўваччу — дарэшты выяўна — паўставалі старажытная піраміда Куікуілька, што месьцілася за кілямэтр ад Алімпійскай вёскі, стромкія, падобныя да зубоў гіганцкага грабянца калюмны стадыёну "Ацтэка", хмарачосы на даляглядзе й крануты мэксыканскім сонцам ды чарнаморскім загарам твар баўгаркі Ангелушы, да якой ён спрабаваў смаліць халяўкі, але тая аддала перавагу францускаму рапірысту. А яшчэ мроіўся фінальны матч зь югаслававамі: нападнік супернікаў Мештравіч, якога ён "крыў", вылятаў па самыя сьцёгны з вады, штосьці гарлаў па-свойму, з адчайным замахам закідаў мячык у іхныя вароты, і скрозь лямант трыбунаў Русіну чуліся панічныя трэнэрскія мацюкі. Вось і цяпер яму прымроіўся залатаскуры Мештравіч, але гэтым разам супернік ня вылецеў з вады, як рабіў дагэтуль, а наадварот — даў глыбокага нырца ды неўпрыкмет убрыкнуў пяткай у пахвіну. Русін перакрывіўся ад болю, пашукаў вачыма судзьдзю, а потым, ачуўшыся, доўга лашчыў далонямі ніз жывата: не даваў спакою застарэлы прастатыт.

Здароўе русінскае апошнім часам боўталася на тонкай нітцы. Усё часьцей і часьцей душу й цела апаноўвала хваравітая стома, ногі рабіліся кісельнымі, круцілася галава, і тады ён валіўся на тахту — калі стома засьпявала яго дома, ці на мокрую лаўку, калі замарач падступала ў басэйне; ляжаў, спавіты цяжкой дрымотай, паўгадзіны, а мо й болей, і абуджаўся з халодна-абамлелым сэрцам і з тупой шчымотай у патыліцы.

...Дзесьці непадалёк колькі разоў запар чхнулі, потым мацюкнуліся, гулкае рэха паўтарыла вясёлыя зыкі, і Русін падняўся з лавы.

Два распараныя бамбізы, абвязаўшы прасьцінамі шырокія, пабабску пукатыя клубы, выйшлі з басэйнавай саўны, прысмакталіся да бутэлечных рыльцаў і разам выдыхнулі: "Ой, бля-а..." Русін, прылашчыўшы рукамі гарачую лысіну, імклівай ластаўкай даў нырца ў басэйн.

У саўне, што працавала пры басэйне, штовечар парыліся валютчыкі ды базарныя рэкеціры. Русін не любіў гэтай публікі і штоpанку, вылоўліваючы з вады піўныя пляшкі ды недапалкі, цяжка ўздыхаў і, не саромеючыся сваіх гадунцоў (ад раньня ў вадзе плёхалася малодшая група), гучна лаяўся.

Русін прайшоўся імклівым брасам, пырхнуў носам і пачуў сіпаты голас:

— Гэй, лысы, плыві сюдой! Півам пачастуем.

Піва Русін ня піў, а таму нікуды не паплыў — ухапіўся за канат, з гідлівай усьмешкай зірнуў на бамбізаў.

— Пэнсіянэр, а плаваеш як іхціяндар, — паведаміў сіпаты бамбіза, прыклаўся да піва і смактаў датуль, пакуль яно ня выбухнула ў бутэльцы белымі хлапякамі.

— Год да пэнсіі, — незадаволена буркнуў Русін, даўшы нырца пад канат.

— Ты што... зэмэзс па плаваньні? — азваўся бязь ценю іроніі другі бамбіза.

— Міжнароднай клясы... і не па плаваньні, а па ватэрполе, — Русін распластаўся на вадзе, прытоена, але выразна дадаў. — На Алімпіядзе ў Мэхіка за зборную выступаў.

Суразмоўнікі паглядзелі на ўдзельніка Алімпіяды зь непрыхаванай цікаўнасьцю.

— І якое месца занялі?

— У фінале... югаславам прадулі, — Русін з адчаем удыхнуў паветра, крыкнуў штосьці неразборлівае і нырнуў, скалыхнуўшы коркавыя канаты на цёмна-малахітавай вадзе. Ля лесьвіцы, намацаўшы рукою асьлізлую парэнчыну, ён шумна ўсплыў.

— Японкі... што жэмчуг ловяць... па пяць хвілінаў на дне сядзяць... — даляцелі да вушэй прыглушаныя гулкім рэхам і біцьцём уласнага сэрца галасы; перамаўляючыся, бамбізы ішлі ў ягоны бок.

Сіпун адрыгнуў піўным духам, закінуў, накшталт рымскіх патрыцыяў, прасьціну на левы плячук: — Гэй, а табе... пяць хвілін пад вадой... слабо?

Русін нічога не адказаў.

— Ну, а хоць бы дзьве...

Сіпаты падышоў да лесьвіцы, адкаркаваў зубамі чарговую пляшку, і бляшаны корак зычна залясkatаў па кафлевай падлозе.

— Сядзіш дзьве хвіліны і маеш дваццаць даляраў.

Русін стоена азірнуўся. "Куплю красоўкі... са старых палец лезе... А можа, штаны спраўлю..."

Бамбіза паставіў ля ног недапітую пляшку, запытальна тузануў падбароддзем.

— Сэкундамер... на лаўцы ляжыць, — прамармытаў Русін і роспачна, да цямноцьця ўваччу, ўдыхнуў паветра.

...Мэтровая тоўшча вады амаль не прапускала сьвятла: там, над галавой, калыхаўся прывідны помрак і варушыліся два размытыя цені. Трымаючыся за лесьвічную білу, Русін перабіраў нагамі, лічыў сэкунды. Далічыўшы да трыццаці, зьбіўся, памкнуўся рвануцца ўгору, але прыкусіў язык і пачаў лічыць ад пачатку: "Раздватрычатырыпяць..." Сэрца гучна затахкала, цені над галавою гайдануліся, і ўваччу паўстала Ангелуша. Масажыстка баўгарскіх гімнастак выбегла з пакою, дзе жылі францускія спартоўцы, і хуценька — Русін бачыў гэта — піхнула ў сумачку дваццаць даляраў...

— Тры хвіліны сядзіць, — прашаптаў сіпун, нахіліўшыся да вады, а ягоны напарнік спалохана заўважыў: — Глянь, у яго ўжо лысіна пазелянела!

Апошнім высілкам, ужо непрытомны, Русін стаў перабіраць рукамі лесьвічныя прыступкі, але на голаў яму абрынулася штосьці важкае і брыклівае...

— Да мяне... йоп... за нагу трымаю... — гукнуў сіпун, ляснуўшыся патыліцай аб лесьвічную білу. Ягоны сябрук, які таксама бухнуўся ў ваду, даў нырца, заехаў сіпатаму каленам у лабешнік і неўзабаве ўсплыў з галавой, шчыльна спавітай мокрай прасьцінай.

— Цягні, бля! — у сіпуна прарэзаўся голас і прагучаў пранізьліва і чыста.

Пачабохтаўшыся, бамбізы выцягнулі Русіна з вады — цягнулі за ногі, долу галавой, — кульнулі на жывот, і калі небарака пачаў ванітаваць, зморана выдыхнулі: "Жывы!" Потым, сьвецячы голымі дупамі, пабеглі ў саўну і адзін зь іх дакорліва выгукнуў:

— Жартун х...ў.

Неўзабаве той, каго так назвалі, — ужо ў штанах і ў чаравіках на босую нагу — падбег да Русіна, адцягнуў ад лужыны ванітаў і спрытным рухам прыляпіў да ягонай мокрай лыткі дваццацідаляравую паперку.

Калі паперка падсохла і адвалілася ад лыткі, яе падхапіла прыбіральшчыца. Піхнуўшы грошы за бюстгальтар, жанчына агледзелася, страсянула рукой нерухомае цела і са здушаным лямантам кінулася выклікаць "хуткую дапамогу".

**Ліпень 2001 г.**

## "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**М. Івенец, Менскай губ.** У нашым Івенцы ёсьць пажарная дружына, ды такая, што аж сорамна людзям пра яе расказаць. Пад узгоркам, каля возера, стаіць хлевушок, а ў ім увесь пажарны струмэнт, ды яшчэ, як на якую пацеху, да таго часу былі выбраны члены праўленьня каманды, а камандаваць няма кім, нават на паперы ня лічыцца ніводнага пажарнага ахвотніка. А ў мястэчку, як кажуць, ёсьць каля 500 гаспадароў, і кожны мае будынкі, а крый Бог пажар, вось тады і рабі, што хочаш; будуць усе таўчыся, адзін аднаго пасылаць ды ганяць без карысьці і толку, як Марку па пекле. Цяпер івянчане выбралі ў прадсядацелі гэтай дружыны вучыцеля – інспэктара тутэйшага гарадзкога вучылішча В.Кліменку. Усе кажуць, што ён навядзе парадак, бо і івянчане знаюць, што ён чалавек сумленны і стараецца з усёй сілы рабіць людзям добра. Вельмі яны, івянчане, дзякуюць таму К-ку за яго стараньне каля адкрыцьця ў нас хаўруснай крамы, дзе торг ідзе бойка.

**Петрукоў М.**
**1911 г., №35**

## Дзе варта быць

### Марачкін



**Да 60-годзьдзя мастака Аляксея Марачкіна ў Менскім Палацы Мастацтваў (вул. Казлова, 3) пройдзе выстава ягоных працаў.** Таксама будуць выстаўленыя творы сяброў суполкі "Пагоня", якая ня мела іншай магчымсьці адзначыць свой 10-гадовы юбілей, апроч як далучыцца да свайго першага кіраўніка. Адкрыцьцё выставы 24 кастрычніка а 17-й.

### Прыехаў кракадзіл

**Менскі заапарк прэзэнтуе выставу экзатычных жывёлаў з Паўднёвай Амэрыкі, Афрыкі ды Азіі.** Падзівіцца на каўнерыкавых мартышак ды кайманаў можна ў Доме прыроды, што ў Траецкім прадмесьці (Багдановіча, 9а).

### Галяграмы

**У Нацыянальным музэі гісторыі і культуры адкрылася выстава галяграмаў** – аб'ёмных відарысаў, што ствараюцца пры дапамозе прамянёў лазэру.

### Міс Эўразія

**Дзяўчаты, якія мараць стаць мадэлькамі, могуць паспрабаваць сябе на конкурсе "Міс Эўразія".** Першы тур адбудзецца 28 кастрычніка ў Менску на Машэрава, 23 ад 12-й да 14-й.

### Кніжная графіка

**23 кастрычніка ў менскай Купалаўскай бібліятэцы — прэзэнтацыя кнігі Міхала Баразны** "Беларуская кніжная графіка 1960–1990 г.". Пачатак у 18.30.

### Новік-Пяюн

**Тэтар "Зьніч" і Дзяржаўны музэй гісторыі беларускай літаратуры запрашаюць 25 кастрычніка на вечарыну "Зорачкі",** прысьвечаную 95-й гадавіне з дня нараджэньня беларускага паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Вечарына адбудзецца ў музэі (Траецкае прадмесьце, Багдановіча, 15), пачатак а 17.30.

### NRM на Трактары

**5 лістапада ў ДК Менскага трактарнага заводу (ст.м. "Трактарны завод") адбудзецца акустычны канцэрт гурту NRM.** Пачнецца ён а 19-й. Квіткі ад 3000 да 10000. Той, хто набудзе квіток за 10000, атрымае бясплатна майку з сымболікай NRM. Даведкі праз т.: (0296) 49-08-88; пэйдж.: 211-85-85 (аб. БМА).

### Нефармальны Беларус

**1 лістапада бард Сяржук Сокалаў-Воюш запрашае ўсіх на прэзэнтацыю свайго новага альбому "Нефармальны Беларус",** якая адбудзецца ў ДК Беларускага таварыства глухіх (Уральская, 3). Пачатак а 19-й. Квіткі каштуюць ад 1000 да 3000.

**Дзяніс Носаў**
**dzie@tut.by**

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Беларуская нацыянальная ідэя**: Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канфэрэнцыі (18–19 красавіка 1999 г., Горадня) / Пад рэд. А.Астроўскага, В.Санька; Прадм. С.Домаша. – Менск: Беларускае выд. тав-ва "Хата", 2000. – 448 с. – Наклад 100 ас.

*Кніга выйшла мізэрным накладам, бальшыня якога пойдзе ўдзельнікам канфэрэнцыі, цікаўныя могуць яе пакуль яшчэ набыць у менскай "Акадэмкнізе" за 20 т.р.*

Г.Лыч. **Народам звацца**. – Менск: Беларускае выд. тав-ва "Хата", 2001. – 336 с. – Наклад 500 ас. ISBN 985-6007-73-9

*Зборнік публіцыстычных артыкулаў на надзённыя тэмы. Каштуе 5,2 т. р.*

Т.Навагродзкі. **Традыцыі народнага харчаваньня беларусаў**. – Менск: Нац. ін-т адукацыі, 2001. – 112 с. – Наклад 500 ас. ISBN 985-6510-42-2

*На падставе досьледаў этнографаў XIX-XX ст. аўтар распавядае пра ежу й зьвязаныя зь ёй традыцыі нашага народу. Цана кнігі 2,6 т. р., прадаецца ў "Акадэмкнізе".*

Міхась Чарот. **Выбранае** / Для старэйшага школьнага веку; Укл. Л.Каўрус. – Менск: Мастацкая літаратура, 2001. – 151 с. – Наклад 2000 ас. ISBN 985-02-0527-X

*Паэт пралетарыяту й працоўнага сялянства Міхась Чарот у кнізе перавыдадзеных твораў рэпрэзэнтаваны вершамі, славутаю паэмаю "Босыя на вогнішчы", апавяданьнямі, нарысам "1200 вёрст па Беларусі" й п'есаю "На Купальлі". Кніга каштуе 920 р.*

Н.Гілевіч. **Родныя дзеці; паэмы** / Маст. Г.Грак. – Менск: ГА Бел. тав-ва "Кніга", 2001. – 448 с.: іл. – (Народная бібліятэка) – Наклад 4000 ас. ISBN 985-6605-07-5

*Рэдактарам кнігі сам Ніл Гілевіч. Цана ўсяго 1,3 т. р.*

Н.Гілевіч. **Шчасьлівыя хвіліны**: Вершы, казкі, небыліцы, загадкі / Для дашкольнага й малодшага школьнага веку; Маст. А.Пазьняк. – Менск: Юнацтва, 2001. – 247 с.: іл. – Наклад 3000 ас.

*Яшчэ адна Гілевічава кніга выйшла ўжо ў дзяржаўным выдавецтве. Пачынаецца вершам "Я - беларус". Каштуе 2,2 т. р.*

М.Багдановіч. **Маладыя гады**: Выбранае / Укл. і біяграф. даведка Э.Золавай. – Менск: Мастацкая літаратура, 2001. – 335 с. – (Беларуская паэзія XX ст.) – Наклад 2500 ас.

*Кніга выйшла да 110-годзьдзя з дня народзінаў паэта, тэксты друкуюцца паводле 1-га тому Поўнага збору твораў. Цана – 1,5 т. р.*

**Слоўнік мовы Янкі Купалы**. У 8 т. Т. 3: Л – П / Склад. У.Анічэнка (гал. рэд.) ды інш. – Менск: Беларуская навука, 2001. – 413 с. – Наклад 600 ас. ISBN 985-08-0373-8

*Цана тому – 8,3 т. р.*

У.Шушкевіч. **Падарожжа вакол Лепельскага возера**. – Лепель, 2001. – 32 с.: іл.

*Самвыдавецкая кніжка краязнаўчых нарысаў. У Менску прадаецца ў сядзібе БНФ.*

Л.Лаўрэш, У.Круцікаў. **Ліда на старых малюнках, паштоўках, фатаздымках**. – Ліда: Краязнаўчае тав-ва "Павет", 2001. – 108 с.: іл. – Наклад 299 ас.

*103 старыя выявы места, нарысы з гісторыі, эканомікі, архітэктуры, апісаньні вуліц і пляцаў. У Інтэрнэце кнігу чытайце на адрасе: www.angelfire.com/jazz/lavresh/lida. Набыць можна ў менскай сядзібе БНФ.*

У.Гніламёдаў. **Ад даўніны да сучаснасьці**: Нарыс пра беларускую паэзію. – Менск: Мастацкая літаратура, 2001. – 246 с. – Наклад 2000 ас. ISBN 985-02-0470-2

*Пра паэзію XX ст., цана – 1,6 т. р.*

А.Макмілін. **Беларуская літаратура ў 50 – 60-я гг. XX ст.**: Манаграфія / Пер. з анг. мовы А.Літвіноўскай. – Менск: Беларускі кнігазбор, 2001. – 332 с.: іл. – Наклад 700 ас. ISBN 985-6698-38-0




*Першае выданьне гэтае кнігі выйшла ў 1999 г. па-ангельску ў Кёльне. Ангельскі дасьледнік беларускае літаратуры збоку глядзіць на працэсы, што ў ёй адбываліся, крытычна разглядае творчасьць нават бясспрэчных клясыкаў: І.Мележа, В.Быкава, У.Караткевіча.*

Л.Левшун. **Леонтий Карпович**: Жизнь и творчество. – Менск: Экономпресс, 2001. – 288 с. – Наклад 1000 ас. ISBN 985-6479-25-8

*"Віленскі Залатавуст" – так называлі ведамага царкоўнага й грамадзкага дзеяча XVII ст. Лявонція Карповіча сучасьнікі. Славуты ён быў таксама тым, што стварыў Віленскі Сьвята-Духаўскі праваслаўны манастыр і стаў там першым архімандрытам. У кнізе, акрамя біяграфіі, зьмешчана колькі твораў Лявонція Карповіча па-старабеларуску і ў перакладзе на сучасную расейскую мову. Кніга каштуе 3,7 т. р.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

# ЗЕМЛЯКІ, альбо Беларускія лімэрыкі-4

Андрэй Хадановіч

У зьбяднелага шляхціца з Крэва
ні гарэлкі няма для сугрэву,
ні гуркоў, ні масьлін,
ані іншых расьлін, —
акрамя геральдычнага дрэва.

Сэнбэрнар у папа з Маларыты
меў вялізарныя габарыты,
бачыў смачныя сны
пра кавалак мясны
й памятаў, дзе калега зарыты.

Патрыётка ад мужа з Драгічына
патрабуе праўдзівага вычыну:
"Страшна кінуць ва ўрад
самаробны снарад —
хоць прыбі да падлогі масьнічыну!"

Будаўнік камунізму у Трабах
век-вяком мізарнеў у прарабах,
у мясцовых "кідал"
выкладаў "Капітал",
рэшту часу цягаўся па бабах.

Ісламіст-бээнэфавец з Іўя
кажа: "З ласкі Аллага адкрыў я
рэлігійны сакрэт:
пуп зямлі — мінарэт,
а навокал — свабодная Крыўя!"

Беларусы з памежных Друскенікаў
не ўжываюць ніколі займеньнікаў:
бо агульнае "мы" —
верны шлях да турмы,
а "яно" — верны шлях шызафрэнікаў.

У нарколяга з Мар'інай Горкі
аксыёму, што сьпірт — вельмі горкі,
кожны ведае сын,
асабліва адзін,
што ня ўнік выхаваўчае поркі.

Прыгажуня й распусьніца зь Мёраў
паказала каханку свой нораў:
"Я сэкс-бомба, і ты,
хоць і надта круты,
не хадзі да мяне безь мінёраў!"


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Улюбёнец жанчын з Баравухі
быў гарбаты, рабы, віславухі,
кірпаносы, крывы
і суцэльна сівы
ад сардэчных турбот і сівухі.

У "прасунутай" школе ў Глыбокім
навучаньне было аднабокім:
кантрацэпцыя ў ранцах,
бо аб СНІДзе і пранцах
ўсім ведома даўно назубок ім.

Два хлапцы да красуні з-пад Шчучына
сябрука прывялі на заручыны.
Ўспамінала дарма,
хто жаніх, — і з трыма
заручылася. Дочкі вы сучыны!

Гумарысты да снайпэра зь Лёзна
па ўспамогу зьвярнуліся сьлёзна.
Ой, ня ўнікнуць бяды:
той паўсюль і заўжды
падыходзіў да жартаў сур'ёзна!

Валацуга, прыехаўшы ў Друю,
палюбоўніцу ўбачыў старую.
Сьлёзы сотняю бруй:
"Дарагая, даруй!"
А каханка ў адказ: "Не дарую!"

Прарасійскія гопнікі ў Гомелі
прэзыдэнта надзвычай багомілі,
лукамол, кадэбэ...
Ды пазналі сябе
ў сьцёбных вершах — і аж зьнерухомелі.

## Прыватныя абвесткі





*Віншуем Алеся Грыцаўца з Днём народзінаў. Зычым вялікага шчасьця, моцнага здароўя, неабдымнага каханьня.*

*Сябры з Баранавіч*





## Паштовая скрынка



**Сьвятлане Р. зь Берасьця.** У Вашым допісе багата агульнае інфармацыі, якую можна знайсьці ў энцыклапэдыях ды гістарычных даведніках. За сухімі біяграфічнымі фактамі ня бачна Езавітава-чалавека: былі ж у яго па-за грамадзка-палітычнай дзейнасьцю сям'я, сябры, любімыя кнігі. Жывыя шчэ людзі, якія яго ведалі, — во каб у іх папытацца, што памятаюць!

**Паўлу С. зь Менску.** Як для газэты, апавяданьне Вашае крыху завялікае і праз гэта недастаткова дынамічнае. Гумар распыляецца на 15-ці старонках. Паспрабуйце дапрацаваць.

**Зьмітру П. зь Менску.** Зьвярніцеся ў рэдакцыю, каб вычытаць Вашу навэлю пасьля рэдагаваньня.

**Максіму Ш. з Прагі.** Калі падсумаваць, Ваша думка такая: беларускі нацыянальны праект дэградуе, нацыянальная энэргія згасае, нацыя стаіць на мяжы фізычнага зьнікненьня. Такая ацэнка мае права на існаваньне, хоць яе не назавеш рацыянальнай ці арыгінальнай. Але каб гэткае было надрукавана, выкладзіце яе належным чынам, у пэўным жанры — артыкулу, эсэ, ліста ў рэдакцыю, паэмы. У форме водгуку на другасныя творы — не прачытваецца. Гэта як сьцьвердзіць неіснаваньне Бога ў форме водгуку.

**Паўлу В. зь Берасьця.** Выпускаць газэту каляровую немагчыма з грашовай прычыны. Бо ня толькі друк падаражэе, але й для вёрсткі газэты патрэбныя лепшыя кампутар, прынтэр і сканэр, бязь іх прыгожых колераў не дасягнуць. Няма й дастатковага архіву каляровых фатаздымкаў. Суцешцеся іншым: з Новага году газэта будзе выходзіць не на 12, а на 16 старонках штотыдня. Падпісвайцеся на газэту, а таксама падпісвайце суседнія бібліятэкі, школы, заводы, бальніцы, і ў газэты хутчэй стане грошай на каляровы друк.

**Арцёму В. зь Менску.** Малюнак Ваш гэткі самы злосны, як і папярэдні. Апроч таго, ён даволі павярхоўны — як па задуме, так і па тэхніцы выкананьня.

**Уладзіславу Ж. зь Менску.** Дзякуй за ліст. Пастараемся даваць у газэце яшчэ больш пазытываў.

## Жарт


ЯЎГЕН ЦАРКОЎ




НАША НІВА — незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":
С.Вольскі (1906), А Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 213-32-32
E-mail: nn@irex.minsk.by
http://niva.s5.com



Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты "Известия", д. 8, кв. 173.
Наклад 4463.
Нумар падпісаны ў друк 21.10.2001.
Замова № 6126.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а